5 мая 2017 | № 17 (531)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Цуды «чарнобыльскай» статыстыкі стар. 4

5 ВЫЗВАЛЕННЕ — ПЕРАХОД З АДНОЙ ТУРМЫ Ў ІНШУЮ



Пакуль несвабодны нехта адзін — несвабодныя ўсе мы. І адзінае што нас між сабой адрознівае — хіба што рэжымы ўтрымання

6–7 БУКЕТ КВЕТАК ЗАМЕСТ ДЗІЦЯЦІ З СІНДРОМАМ ДАЎНА



«Ні я, ні мой былы муж не былі да гэтага гатовыя, — кажа Кацярына. — Але самым сумным было тое, што нават дактары моцна ціснулі, каб мы адмовіліся ад дзіцяці»

9 АПОШНІ АКТ ВЕНЕСУЭЛЬСКАЙ ДРАМЫ

Уга Чавес, напэўна, сёння круціцца ў труне. Яго заклятыя праціўнікі з лагеру дэмакратычнай апазіцыі зараз абараняюць прыдуманую Уга так званую «Баліварскую Канстытуцыю»

10 ЯШЧЭ РАЗ ПРА ВАЙНУ, АЛЬБО ФІКУСЫ Ў КАДУШКАХ

Кожны год адбываюцца аднолькавыя, як пад капірку, святкаванні Дня Перамогі



# Пытанне нацыянальнай бяспекі

## Зарэгуляванасць беларускіх медыя вядзе да небяспечных тэндэнцый



Сяргей ПУЛЬША





Увесь гэты тыдзень для «акулаў пяра і мікрафона» — святочны. 3 мая мы адзначылі Сусветны дзень свабоды друку. 5 мая — беларускі Дзень друку, 7-га — Дзень работнікаў радыё, тэлебачання і сувязі.

Напярэдадні гэтых святаў міжнародная арганізацыя «Рэпарцёры без межаў» (RSF) апублікавала рэйтынг, у якім паказана, што святкаваць нам, у прынцыпе, няма чаго. Рэйтынг называецца «Сусветны індэкс свабоды слова», Беларусь, па меркаванні экспертаў RSF, засталася ў ім на 153-м са 180 месцаў.

Мы падзяляем свае пачэсныя дасягненні са Свазілэндам (152 месца), Дэмакратычнай Рэспублікай Конга (154) і Турцыяй (155). Расія пакуль наперадзе — 148-я пазіцыя. Украіна ў рэйтынгу RSF займае 102-е месца, Польшча — 54-е, Літва — 36-е, Латвія — 28-я.

«У спробе аслабіць расійскі ўплыў на Беларусь і выйсці з эканамічнага крызісу, рэжым Аляксандра Лукашэнкі спрабуе здабыць кантакты з міжнароднай супольнасцю і сцерці вобраз «апошняга дыктатара Еўропы». Аднак, акрамя вызвалення з турмаў галоўных палітычных вязняў, у краіне нічога не змянілася. Пазаштатныя журналісты, якія працуюць у незалежных СМІ, заснаваных за мяжой, не могуць атрымаць акрэдытацыю і церпяць пераслед з боку судовых органаў», — каментуюць сваё рашэнне «Рэпарцёры без межаў».

У дакуменце таксама гаворыцца: «Нешматлікія журналісты былі арыштаваныя або цярпелі гвалт у 2016 годзе. Але зацішша скончылася ў сакавіку 2017 года, калі беспрэцэдэнтная хваля пратэстаў прывяла да істотнага пагаршэння сітуацыі».

Як бачым, сябры з RSF больш увагі надаюць маштабнай геапалітычнай абстаноўцы, чым карпаратыўным праблемам беларускай журналістыкі. Але і ў карпаратыўнай галіне не ўсё так добра, як хацелася б.

Канешне, нам вельмі радасна, што «Новы Час» патрапіў у распаўсюд, і з другога паўгоддзя будзе даступны ў дзяржаўнай сістэме падпіскі (дык падпісвайцеся!). Гэта палегчыць жыццё, найперш, нашым чытачам: ім не давядзецца больш шукаць газету па офісах недзяржаўных арганізацый і плаціць камісію банкам за падпіску на выданне.

Але глабальна недзяржаўныя выданні змагаліся за іншае — за роўныя ўмовы дзейнасці для ўсіх СМІ. А тут яшчэ конь не валяўся.

А з электроннымі СМІ сітуацыя зусім сумная. Той пераслед «фрылансераў», які заўважылі «Рэпарцёры без межаў», — па-сутнасці пераслед журналістаў «Белсата». Гэты тэлеканал не можа стварыць тут карпункт, яго журналісты ўжо колькі гадоў не могуць атрымаць і акрэдытацыю як прадстаўнікі замежнага СМІ. Акрэдытацыю выдае (дакладней, не выдае) Міністэрства замежных спраў. З езуіцкай фармулёўкай: нібыта, супрацоўнікі тэлеканалу прыцягваліся да адказнасці за працу без акрэдытацыі, таму акрэдытацыю і не даем.

**Вынік рэгулявання медыя хутчэй адмоўны, чым станоўчы**

Дый з іншымі замежнікамі справа цікавая. Колькі гадоў ужо абяцанкам улады запусціць, напрыклад, украінскі тэлеканал хаця б у кабельныя сеткі Беларусі! Выніку няма.

Затое ці вы можаце ўявіць краіну, дзе б грамадзяне ваявалі з уласным тэлебачаннем? Напэўна, не. Зазвычай людзі выходзяць на абарону любімага СМІ, як было з «5 каналам» ва Украіне альбо з «Руставі 2» у Грузіі. Можа, нехта недзе, як беларускія анархісты, і закідвае будынкі, дзе месцяцца тэлеканалы, фарбай, але далей гэтага зазвычай не ідзе.

А ў нас ідзе. Прапагандысцкі фільм БТ «Белы легіён чорных душаў» выдалены з сэрвісу YouTube па патрабаванні гледачоў, а канкрэтна — гурта «Irdorath Fantasy Folk Band». Фармальнай падставай стала тое, што БТ парушыла аўтарскія правы, без дазволу ўключыўшы ў якасці музычнага суправаджэння кампазіцыю гурта. Самі музыкі патлумачылі, што яны сваю музыку не асацыявалі з палітыкай, «а тым больш з дзяржпрапагандай». «Пад такім кантэнтам мы б ніколі не падпісаліся. Гэты фільм быў зроблены па замове пасля вядомых падзеяў. Наша музыка там гучаць не павінна, і нашага імя там быць не павінна», — зазначылі прадстаўнікі «Irdorath Fantasy Folk Band».

Але вынік рэгулявання медыя — хутчэй адмоўны, чым станоўчы. Дзяржаўныя СМІ страчваюць не толькі дзяржаўныя грошы, але і, у выніку распаўсюду непрыкрытай лухты і прапаганды, давер аўдыторыі. Аўдыторыя сыходзіць на іншыя каналы. А якія ў нас іншыя? Так і ствараецца вокны адэптаў «русского мира» ў Беларусі.

А гэта ўжо — пытанне нацыянальнай бяспекі.

# Парушана права на абарону

Генадзь КЕСНЕР

**Мікола Статкевіч знік увечары 28 красавіка. Днём пазней Марына Адамовіч атрымала тэлефанаванне з Ленінскага РУУС Мінска з паведамленнем пра тое, што яе муж асуджаны на пяць сутак адміністрацыйнага арышту і знаходзіцца ў ЦІП на Акрэсціна.**

Адваката да Статкевіча не дапусцілі. Наколькі дзеянні адміністрацыі ЦІП адпавядаюць дзейнаму заканадаўству? На пытанні адказаў юрыст Праваабарончага цэнтру «Вясна» Павел Сапелка.

— Гэта парушэнне права Мікалая Статкевіча на абарону ў чыстым выглядзе. Чаму ўлады так сябе паводзяць, гэта пытанне да саміх уладаў. А так у цэлым, паводле закону, Статкевіч мае права на юрыдычную дапамогу ў любы час. Калі чалавек асуджаны на адміністрацыйны арышт, у яго ёсць усяго толькі пяць дзён на тое, каб падаць скаргу на, хутчэй за ўсё, незаконнае асуджэнне і прыцягненне да адміністрацыйнай адказнасці. І вось замест таго, каб сядзець з адвакатам і рыхтаваць скаргу, Статкевіч сядзіць без адваката.

***— Як можна патлумачыць тое, што сваякам нават не паведамілі, за што асуджаны Статкевіч?***

— Дзякуй, што ўвогуле паведамілі, што ён знаходзіцца ў ЦІП, бо, як я памятаю, у некаторых выпадках абыходзіліся нават без гэтага. Цяпер варта звяртацца са скаргай для пачатку ў Міністэрства ўнутраных справаў і паралельна ў пракуратуру, у якой адвакат можа звярнуць увагу, што правы ягонага падабароннага парушаныя.

***— З пункту гледжання юрыста, як можна ацаніць той факт, ужо далёка не першы, што да затрыманых не пускаюць адвакатаў?***

— Вельмі яскрава гэтая праблема знайшла сваё адлюстраванне ў 2010 годзе і на пачатку 2011 года, калі не дапускалі абаронцаў да «дзекабрыстаў» — затрыманых пасля падзеяў 19 снежня 2010 года. Тады адвакатаў не дапускалі ў Следчы ізалятар КДБ. І зараз такая праблема зноў у некаторай ступені існуе. Каб вырашаць гэтую праблему, трэба абскарджваць выпадкі нядопуску абаронцаў да затрыманых. Калі гэтага не рабіць, то праблемы не будзе вырашана ўвогуле. І, безумоўна, грамадскае агалошванне, інфармацыя ў прэсе пра такія выпадкі — адзін з магчымых складнікаў поспеху ў барацьбе з гэтай негатыўнай з'явай.

# Першамай у Гомелі

Марына ДРАБЫШЭЎСКАЯ

**Затрыманні журналістаў і актывістаў, пратаколы і суды — і ўсё гэта пасля афіцыйна дазволенага ў Гомелі мітынгу.**

Мітынг арганізоўвала Беларуская партыя «Зялёныя». Ён быў прысвечаны дню працы, правам працоўных ды насіў сацыяльны характар. Але трапіць туды змаглі не ўсе: кагосьці не прапускалі на тэрыторыю з мегафонам, кагосьці з газетай «Новы Час», іншых — з бел-чырвона-белымі сцягамі. Паводле розных падлікаў, усяго разам з тымі, хто застаўся за агароджай, у мерапрыемстве паўдзельнічалі прыблізна 100–150 чалавек, сярод якіх асноўную частку складалі людзі пенсійнага ўзросту.

Збольшага ўсё прайшло спакойна: прамоўцам ніхто не замінаў выказвацца, людзі распавядалі, слухалі, скандавалі лозунгі, прысвечаныя працы і сацыяльным пытанням, якія хвалююць беларускі народ апошнія паўгода: «Не — карупцыі», «Не — дэкрэту №3», «Супраць платнай медыцыны!» і г.д. На мітынг, нягледзячы на шэраг перашкодаў, нават змог трапіць сустаршыня БХД Віталь Рымашэўскі.

Незразумелым толькі засталося, чаму напярэдадні і падчас правядзення акцыі ўлады так актыўна зачышчалі прастору ад журналістаў.

Нашага калегу, журналіста Яўгена Меркіса, які збіраўся асвятляць першамайскі мітынг, па дарозе дадому затрымалі двое амапаўцаў і абвінавацілі ў нецэнзурнай лаянцы ў грамадскім месцы яшчэ 30 красавіка. У выніку 2 мая суд вынес Меркісу 5 базавых велічыняў штрафу, а час да суда яму давялося правесці ў ІЧУ.

Зранку 1 мая таксама былі затрыманыя грамадскія актывісты Андрэй Макараў, Віктар Рубцоў, Мікалай Пяшко, Барыс Анікееў. Гомельскі блогер Максім Філіповіч быў заблакаваны ў сваёй кватэры двума супрацоўнікамі органаў у цывільным адзенні. Журналістаў і актывістаў пільнавалі каля дамоў з глыбокага ранку.

Тых з іх, каму ўсё ж удалося трапіць на мітынг, затрымлівалі пасля яго заканчэння. Так затрымалі мяне, Ларысу Шчыракову, Васіля Палякова.

Я накіроўвалася дадому і не дайшла літаральна двухсот метраў да сваёй кватэры. Тыя, хто мяне затрымліваў, не прадставіліся, не паказалі службовых пасведчанняў, толькі настойліва прасілі праехаць з імі. На маё пытанне, ці затрымліваюць мяне, адказалі «не». На пытанне, ці магу яісці, — таксама не. Пасля некалькіх маіх просьбаў прадстаўніцца адзін з іх усё ж такі назваўся ўчастковым Чыгуначнага РАУСа Шуляком, і нават паказаў пасведчанне, і папрасіў мяне таксама прадставіцца. Я назвалася і паказала пасведчанне карэспандэнта газеты «Новы Час», але гэта ні на што не паўплывала.

У РАУСе мне адмовілі ў праве мець прадстаўніка (унізе сядзела і чакала мяне маці, і я прасіла, каб міліцыянты пусцілі яе да мяне ў якасці майго прадстаўніка) і прычыну не патлумачылі. Таксама мне паўтары гадзіны адмаўляліся паведаміць, у статусе каго я знаходжуся. Тры разы мяне вадзілі на асабісты дагляд: першыя два разы я патрабавала спачатку растлумачыць мне мой статус і падставу для затрымання, у адказ на што міліцыянтка вельмі здзіўлялася, запытвала: «А вам не объяснили?», хадзіла з кімсьці раіцца і выпраўляла мяне зноў чакаць.

Праз паўтары гадзіны мне нарэшце растлумачылі, што адносна мяне вядзецца адміністрацыйны працэс па артыкуле 22.9 (парушэнне заканадаўства аб СМІ), правялі дагляд асабістых рэчаў, расклалі ўсе рэчы па пакунках-файліках і адправілі да маёра міліцыі Сцепаненкі, які сказаў, што будзе складаць пратакол правапарушэння. Калі я спытала пра падставы і доказы для складання пратакола, мне адказалі: «Я человек подневольный, это моя работа, мне необходимо составить на вас протокол».

Калі ж я ў чарговы раз падкрэсліла, што супрацоўнічаю з афіцыйна зарэгістраваным на тэрыторыі Беларусі СМІ — газетай «Новы Час», сказаў: «Будем разбираться, проведём проверку», уручыў мне копіі

# Вінярскі зноў на сутках

Арцём ЛЯВА

**Суд Цэнтральнага раёна Мінска адправіў актывіста «Еўрапейскай Беларусі» Максіма Вінярскага на 15 сутак.**

Максіма затрымалі пасля заканчэння акцыі 1 мая асобы ў цывільным, якія адвезлі актывіста на мікрааўтобусе без нумарных знакаў у Цэнтральны РУУС.

Падчас свайго выступу на судзе Максім Вінярскі заявіў, што сваёй віны не прызнае, паколькі браў актыўны ўдзел у мірнай акцыі, а гэта права гарантаванае Канстытуцыяй.

«Калі ўлады дазваляюць сабе парушаць Канстытуцыю і адвольна мяняць час, месца і фармат заяўленай акцыі за лічаныя дні да яе пачатку, то яны губляюць маральнае права нешта нам указваць. З боку дэманстрантаў ніякіх парушэнняў не было. Мы рэалізоўвалі сваё канстытуцыйнае права!» — заявіў Максім Вінярскі.

Сведкі з боку міліцыі заявілі, што Максім Вінярскі прымаў актыўны ўдзел у несанкцыянаванай акцыі, прынамсі выгукваў праз мегафон: «Жыве Беларусь!» і «Баста!» Пры гэтым, адказваючы на пытанні адваката, праваахоўнікі мусілі прызнаць, што заклікаў да супрацьпраўных дзеянняў ад удзельнікаў акцыі не чулі, і ніхто падчас правядзення акцыі не пацярпеў. Камандзір аддзялення ГУУС увогуле прызнаў, што «асаблівых парушэнняў грамадскага парадку з боку Вінярскага не было».

Але, як і чакалася, суддзя Міхаіл Хома прызнаў Максіма Вінярскага вінаватым паводле артыкула 23.34 КоАП (парушэнне парадку арганізацыі масавых мерапрыемстваў) і пакараў яго 15 суткамі арышту. Максім заявіў, што абвяшчае на знак пратэсту галадоўку.

# Пішыце лісты ў турмы

Алесь КІРКЕВІЧ

**Пра тое, як сябе адчувае, што чытае, а таксама пра свае патрэбы піша Віктар Данілаў, абвінавачаны паводле артыкулаў 293-1 ды 287 Крымінальнага кодэксу.**

У лісце да сябра Данілаў піша, што трымаецца добра, настрой бадзёры. Згадвае, што «знаходжанне тут — не самы цікавы час, але гэта выпрабаванне, якое варта прайсці». Таксама Віктар дзякуе за падтрымку з волі, якая адчуваецца і за турэмнымі мурамі.

Галоўная нястача адчуваецца ў інфармацыі. З прэсы хлопец атрымлівае «Вячэрні Мінск», які называе «адавай газетай» ды «агратрэшам». Ратуюць кнігі, якія ёсць у турэмнай бібліятэцы: Караткевіч, Сянкевіч, Даўлатаў, Ніцшэ… «Без кніг быў бы сапраўдны Дзень сурка», — піша Данілаў.

На харчаванне не скардзіцца: кашы, супы, бігус. Зрэшты, турэмнае харчаванне мала адрозніваецца ад вайсковага, таму для Віктара тут нічога новага няма. «Усё ў лепшых традыцыях», — рэзюмуе аўтар ліста.

Пра асабістыя патрэбы Данілаў нічога не піша, адно просіць падтрымліваць іншых хлопцаў, фігурантаў «Справы патрыётаў»: «Што да патрэбаў — калі ласка, пішыце нашым зняволеным хлопцам лісты і паштоўкі! Ім гэта зараз вельмі трэба. Гэта грэе і надае веры ў нашу агульную Справу».

Нагадаем, што Віктар Данілаў быў затрыманы 21 сакавіка, дзверы ў яго кватэру былі выламаныя спецназам КДБ «Альфа». Хлопца спачатку ўтрымлівалі ў СІЗА КДБ, пасля перавялі ў СІЗА №1 МУС (Валадарка). Віктар быў інструктарам «Чырвонага Крыжа» ды вёў гурток па дапрызыўнай падрыхтоўцы ў адной з мінскіх школаў, дапамагаў у распаўсюдзе выданняў «Кнігазбору». На волі ў яго засталася нявеста Юля.

Напісаць хлопцу можна па адрасе: 220050, Мінск, вул. Валадарскага, 2, СІЗА-1, Данілаву Віктару Канстанцінавічу.

Іншым вязням можна напісаць таксама:

Абрамаў Аляксей Анатольевіч. 220050, Мінск, Галоўпаштамт, а/с 8

Бяляўскі Андрэй Валер'евіч. 220030, Мінск, Галоўпаштамт, а/с 8

Дундукоў Андрэй Вячаслававіч. 220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2

Зімніцкі Аляксандр Антонавіч. 220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2

Кавальчук Іван Віктаравіч. 220050, Мінск, Галоўпаштамт, а/с 8

Комлік-Ямацін Андрэй Вячаслававіч. 220050, Мінск, Галоўпаштамт, а/с 8

Кунцэвіч Сяргей Уладзіміравіч. 220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2

Лазоўскі Мірaслаў Уладзіміравіч. 220050, Мінск, Галоўпаштамт, а/с 8

Мароз Віктар Генадзьевіч. 220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2

Міхалькоў Міколай Мікалаевіч. 220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2

Новік Дзмітрый Мікалаевіч. 220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2

Палтаржыцкі Яўген Канстанцінавіч. 220050, Мінск, Галоўпаштамт, а/с 8

Пашкевіч Цімур Вітальевіч. 220050, Мінск, Галоўпаштамт, а/с 8

Румянцаў Уладзімір Аляксандравіч. 220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2

Стрыбульскі Сяргей Сяргеевіч. 220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2

Фёдараў Уладзімір Валер'евіч; 220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2

Яўдаха Аляксандр Анатольевіч; 220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Усе пры справе

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Даручэнне кіраўніка Беларусі выкананае, усе працаўладкаваныя. Гэта, бадай, самы сенсацыйны вынік працяглых першамайскіх святаў.**


Фота www.kraj.by

Пра гэта журналістам паведаміла міністр працы і сацыяльнай абароны Беларусі Ірына Касцевіч. Яна нагадала, што ў красавіку ва ўсіх рэгіёнах была разгорнутая маштабная праца. «Мы дайшлі да кожнага чалавека. За красавік працаўладкавалі больш за 85 тысяч чалавек, — падкрэсліла яна. — Хто хацеў, той, вядома, быў працаўладкаваны».

Паводле яе звестак, на рынку працы сітуацыя досыць стабільная, і колькасць занятых у эканоміцы вырасла на 5,6 тысячы чалавек.

Самае цікавае, што пацвердзіць ці аспрэчыць словы міністра цяпер немагчыма. На сайце Нацыянальнага статыстычнага камітэта лічба беспрацоўных — пакуль толькі за сакавік гэтага года. І там сітуацыя не вельмі вясёлая: у сакавіку звольнена на 5 тысяч чалавек больш, чым працаўладкавана.

Якім жа чынам Міністэрства працы дамаглося прарыву ў выкананні даручэння Аляксандра Лукашэнкі?

Мінскі актывіст-прадпрымальнік Ілля Дабратвор расказвае цікавую гісторыю. Вырашыў ён скарыстацца загадам Лукашэнкі, знайшоў вакансію, аднёс дакументы, яго прынялі. На працу трэба было выходзіць 2 мая. Ён прыйшоў — і яго адразу ж звольнілі. Такім чынам 1 мая ён быў «працоўным», а ўжо 2 мая — зноў беспрацоўным.

Магілёўскі актывіст АГП Уладзімір Шанцаў, напрыклад, расказвае, што колькасць «працоўных» наганяецца штучна. «Там, дзе павінен працаваць адзін чалавек, вобразна кажучы, робяць так, каб працавалі чатыры».

Гэтага не хаваюць нават улады. Сайт vitebsk.cc раскапаў рашэнне Наваполацкага гарвыканкама пра «павелічэнне аб'ёмаў аплатных грамадскіх работ у арганізацыях жыллёва-камунальнай гаспадаркі». Раней, згодна з прынятым у канцы 2016 года рашэннем, у 2017 годзе планавалася 50 чалавека-дзён аплатных грамадскіх работ. Паводле змен, унесеных гарвыканкамам, абём такіх работ у сферы ЖКГ павялічаны да 3000 чалавека-дзён.

То бок, можна «працаўладкаваць» у 60 разоў (!) больш народу! Праўда, па-першае, праца гэта часовая. Па-другое, які будзе заробак на такой працы?

Той жа Шанцаў кажа пра зразумелую кожнаму нармальнаму чалавеку рэч: грошы ніадкуль не бяруцца. А таму плануе ўзмацненне пратэстных настрояў, калі заробак аднаго чалавека падзеляць на чатырох, і калі гэтыя чатыры атрымаюць разліковыя лісты: «Тады, магчыма, пратэст активізуецца, можа быць нават, без нашага ўдзелу, самастойна», — кажа Шанцаў.

І ён у нечым мае рацыю. Праўда, пратэст актывізуецца «не потым», а зараз. Грошай не хапае на самае святое.

Крычаўскія міліцыянты абурыліся эканоміяй ва ўласным ведамстве. Кіраўніцтва прымушае іх выконваць план па «злачынствах» і аддаваць частку заробкаў. 11 супрацоўнікаў правапарадку даслалі ліст міністру Шуневічу, у якім апісваюць умовы сваёй працы.

Падпалкоўнік міліцыі Ігар Вусік праслужыў у міліцыі 21 год, атрымаў летась медаль «За бездакорную службу». Аднак кажа, што цяперашні ягоны кіраўнік, падпалкоўнік Станіслаў Чупрын, перайшоў усе межы: супрацоўнікам не даюць прэміяў, а калі прэміруюць, грошы трэба аддаць кіраўніцтву. Паборы, кажа Вусік, ягоны кіраўнік дзяліў з намеснікам кіраўніка па ідэалагічнай працы Васілём Ціханенкам.

«У снежні 16-га года нам выдалі прэміі, але мы гэтае прэміяванне мусілі вярнуць. Ціханенку і іншым кіраўнікам, відаць», — распавядае ўчастковы Крычаўскага РАУСу Андрэй Шашкоў.

Паводле міліцыянтаў, дзяжурныя не маглі сыходзіць са службы, не выявіўшы правапарушэнняў «за хуліганства» і «за распіванне алкагольных напояў у грамадскіх месцах». Міліцыянты мусілі дзяжурыць, пакуль не знойдуць вінаватых паводле адпаведных артыкулаў. На ўзмоцненым рэжым нясення службы за мінулы год працаўнікоў аддзелу аховы парадку пераводзілі 8 разоў, зазначае былы міліцыянт Юрый Дзюбанаў. «Узмоцнены рэжым — 10 дзён без выходных і 12-гадзінны працоўны дзень», — кажа Дзюбанаў.

Магілёўскае Упраўленне ўласнай бяспекі парушэнняў паводле скаргі міліцыянтаў не знайшло. Цяпер Ігар Вусік, і яго паплечнікі разлічваюць на расследаванне сталічных органаў. У звароце да міністра ўнутраных спраў Ігара Шуневіча яны пералічылі ўсё, з чым сутыкаліся пад кіраўніцтвам Чупрына: знявагі і кпіны, несправядлівыя пакаранні, неабгрунтаваныя з гледзішча міліцыянтаў пераводы на ўзмоцнены варыянт нясення службы ды абавязковыя выяўленні правапарушэнняў. Падпісалі зварот 11 чалавек.

Ці прыслухаецца Шуневіч да сваіх падначаленых, ці ён больш заклапочаны захаваннем «помніка гарадавому»?

Не лепш справы ў другой «святой каровы» беларускіх уладаў — спорту. Старшыня футбольнага клубу «Нафтан» Леанід Падліпскі напісаў ліст старшыні АБФФ Сяргею Румасу. Паводле звароту, футбалісты не атрымліваюць заробак ужо чатыры месяцы, а ў клубе няма грошай ні на харчаванне, ні на бензін.

Пытанне, дзе ўзяць грошы, дагэтуль застаецца самым актуальным у дзяржаве. Бачна, крэдыты, пра якія Лукашэнка дамовіўся з Пуціным, краіну не выратавалі. Таму шукаюцца новыя формы ад'ёму грошай у насельніцтва.

Напрыклад, Аляксандр Лукашэнка падтрымаў прапанову прыраўняць электронныя цыгарэты да тытунёвых вырабаў, паведаміла прэс-сэкратар начальнік упраўлення арганізацыі гандлю і паслуг Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю (МАРГ) Віялета Бразоўская па выніках нарады ў кіраўніка дзяржавы.

Плануецца забараніць рэкламу электронных сістэм курэння і іх продаж непаўналетнім. Таксама будуць вызначаны месцы, дзе можна рэалізоўваць дадзеныя прылады.

Галоўнае — забарона рэкламы? Не. Галоўнае, што зараз электронныя цыгарэты і вадкасці для іх будуць абкладацца такім жа акцызам, як і звычайны тытунь. Вось у гэтым дасягненне.

Трэба яшчэ наконт кальянаў падумаць.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Павел Севярынец

**Паспяхова правёўшы акцыю 1 мая, сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» трапіў за краты на 15 сутак.**

Такое рашэнне вынес суд Цэнтральнага раёна Мінска.

Цікава, што Севярынца асудзілі за ўдзел адразу ў дзвюх вулічных акцыях — 1 мая на Кастрычніцкай плошчы і 3 сакавіка ў Курапатах.

Севярынец сваёй віны не прызнаў. Паводле яго слоў, сведкі, якія прадстаўляюць АМАП ГУУС Мінгарвыканкама, давалі лжывыя паказанні. Два супрацоўнікі АМАПу сцвярджалі, што асабіста затрымлівалі Севярынца 1 мая ў 14.30 на ўваходзе ў станцыю метро «Кастрычніцкая». Між тым, у гэты час Севярынец быў ля Палацу Рэспублікі, і мірна дайшоў з дэманстрантамі да плошчы Незалежнасці, дзе акцыя скончылася пасля 15.00.

Падчас пасяджэння Севярынец прапанаваў суддзі Шабуні здзейсніць «самы дастойны і маральны ўчынак у сваім жыцці — звольніцца з пасады суддзі, каб не ўдзельнічаць у незаконных працэсах». Шабуня гэтай парадай не скарысталася.



## Андрэй Стрыжак

**Ініцыятыва By_help па збору дапамогі пацярпелым падчас вясны–2017 трапіла ў нечаканы скандал.**

Арганізатару By_help Андрэю Стрыжаку наракаюць на тое, што ён не дапамагае рэжысёрцы Вользе Мікалайчык.

У Мікалайчык назапасілася больш за 9000 долараў неаплачаных штрафаў за акцыі пратэсту 2015–2016 гадоў. Вольга штрафы свядома не плаціла, цяпер да яе прыйшлі судовыя выканаўцы. Да 6 мая актывістка павінна аплаціць хаця б частку, інакш яе чакае канфіскацыя маёмасці. Некаторыя лічаць, што дапамагчы рэжысёрцы можа толькі By_help.

Стрыжак адказаў на прэтэнзіі: з сакавіка праз ініцыятыву прайшло каля 52000 долараў. Грошы пайшлі рэпрэсаваным падчас Маршаў недармаедаў і сем'ям фігурантаў справы патрыётаў. Цяпер у By_help засталося $6000, а дапамогі чакаюць яшчэ каля 30 сем'яў.

«Аддаць гэтыя грошы Вользе ці не — гэта не пытанне выбару, гэта пытанне правілаў і абавязальніцтваў, якія мы ўзялі на сябе на пачатку дзейнасці: мы збіраем грошы на дапамогу тым, хто пацярпеў вясной–2017 (адміністрацыйны і крымінальны пераслед). Мы абвяшчалі збор менавіта на гэта», — патлумачыў Стрыжак.

Пры гэтым Стрыжак адзначыў, што замест таго, каб падлічваць чужыя грошы, «кожны можа стварыць сваю кампанію дапамогі і абвясціць збор сродкаў».

## Эдуард Ханок



**Вядомы кампазітар забараніў выкарыстоўваць музыку сваіх самых папулярных песень Анатолю Ярмоленку і Ядвізе Паплаўскай.**

Адпаведныя лісты Ханок накіраваў міністру культуры Барысу Святлову і міністру інфармацыі Ліліі Ананіч. «Хачу паведаміць Вам пра тое, што ў сувязі з грубымі парушэннямі маіх аўтарскіх правоў Анатолем Ярмоленкам і дуэтам Ціхановіч-Паплаўская, я, як уладальнік выключных правоў, апавясціў усе радыё і тэлеканалы Рэспублікі Беларусь аб забароне з 26 красавіка 2017 года выкарыстання як у аўдыё, так і ў тэлевізійных варыянтах музыкі наступных маіх твораў (песень): «Вы шуміце, бярозы», словы Ніла Гілевіча; «Шчаслівы выпадак», словы Ларысы Рубальской; «Я ў бабулі жыву», словы Ігара Шаферана; «Завіруха» словы Генадзя Бураўкіна; «Маліноўкі пачуўшы галасок», словы Анатоля Папарочнага».

Гэтая забарона датычыцца ўсіх масавых мерапрыемстваў, уключаючы Маладзечанскі фестываль, а таксама «Славянскі базар» у Віцебску.

Ханок пакрыўдзіўся, што выканаўцы ўвогуле перасталі аб'яўляць на сцэне аўтараў слоў і музыкі песень. Калі яны не абвяшчаюць імёны кампазітараў і паэтаў, публіка можа лічыць іх яшчэ і аўтарамі таго, што гучыць са сцэны. Юрыдычна гэта называецца «прысваенне аўтарства».

Таму Ханок патрабуе не толькі паважаць аўтараў словаў і музыкі, але і заключэння «аплатнай дамовы» з ім як з кампазітарам. «Таму што нельга заахвочваць прысваенне вынікаў чужой працы. Усё мае свае межы», — кажа Ханок.

# Цуды «чарнобыльскай» статыстыкі

Аляксей ХАРКЕВІЧ

**Напярэдадні чарговай гадавіны аварыі на ЧАЭС Белстат апублікаваў бюлетэнь, прысвечаны статыстыцы сістэмы аховы здароўя. Яго лічбы прымушаюць здзіўляцца.**




З аднаго боку, павялічваецца колькасць захворванняў, звязаных з негатыўным уздзеяннем малых доз радыяцыі. Але, з іншага боку, калі зыходзіць выключна з сухіх статычных дадзеных, атрымліваецца, што насельніцтва, пацярпелае ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС, хварэе значна радзей за астатніх беларусаў. Аднак калі зрабіць больш глыбокі аналіз статыстычных дадзеных — прыходзіш да зусім іншых высноў.

Даследаванні навукоўцаў усталявалі негатыўны ўплыў малых доз радыяцыі на цэлы шэраг захворванняў. У прыватнасці, на эксперыментальных і клінічных матэрыялах даказана ўздзеянне радыяцыйнага выпраменьвання ў вялікіх і малых дозах на структуру і функцыі нервовай і эндакрыннай сістэм. Радыяцыйнае апрамяненне можа быць прычынай развіцця ракавых захворванняў, прыроджаных анамалій. А чырвоны касцявы мозг і іншыя элементы крывятворнай сістэмы губляюць здольнасць нармальна функцыянаваць ужо пры дозах радыяцыйнага апрамянення 0,5-1 Гр.

Акрамя малых доз радыяцыі, на здароўе беларусаў уплываюць мноства іншых фактараў, але, тым не менш, нельга абыйсці ўвагай той факт, што 2016 год стаў рэкордным па ўзроўні захворванняў адразу па некалькіх хваробах, якія можна звязаць з наступствамі радыяцыі.

Па малюнку 1 нескладана ўсталяваць устойлівую тэндэнцыю росту захворванняў эндакрыннай сістэмы, выяўленых новаўтварэнняў і заган развіцця. Рост захворванняў нельга назваць выпадковым, паколькі антырэкорды па гэтых групах захворванняў абнаўляюцца практычна кожны год. У выніку колькасць выяўленых прыроджаных анамалій за мінулыя 15 гадоў вырасла больш чым у два разы, колькасць новаўтварэняў — у паўтара разы, а хвароб эндакрыннай сістэмы — на 36%.

Пастаянны рост узроўню захворванняў прымушае звярнуць увагу на статыстыку хвароб насельніцтва, пацярпелага ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, якое падлягае спецыяльнай дыспансерызацыі. Балазе, што ў гэтым годзе Нацыянальны статыстычны камітэт Рэспублікі Беларусь упершыню падаў такія дадзеныя.

## Зайздроснае здароўе «чарнобыльцаў»

Для многіх падасца неверагодным, але не толькі па гэтых трох групах хвароб, аднак і абсалютна па ўсіх захворваннях насельніцтва, пацярпелае ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС, дэманструе больш нізкі ўзровень захворванняў, чым у сярэднім па краіне. Калі ў сярэднім па краіне ўзровень захворванняў складае 85 260 чалавек на 100 000 насельніцтва, дык сярод пацярпелага насельніцтва — толькі 65 410 чалавек. Атрымліваецца, што «чарнобыльцы» хварэюць на 25% радзей, чым астатнія беларусы.

Адносна нізкі ўзровень захворванняў эндакрыннай сістэмы і анкалогіі сярод насельніцтва, пацярпелага ад радыяцыйнага забруджвання, характэрны не толькі для Беларусі. Спецыялісты тлумачаць гэты феномен якаснай медыцынскай дыягностыкай, якая дазваляе выявіць праблемы ўжо на раннім этапе. Аднак у Беларусі статыстыка паведамляе пра зусім унікальную сітуацыю. Насельніцтва, пацярпелае ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС, дэманструе адносную ўстойлівасць абсалютна па ўсіх групах захворванняў.

Асабліва ўражваюць дадзеныя пра тое, што «чарнобыльцы» радзей хварэюць, напрыклад, на псіхічныя засмучэнні — на 61%; хваробы скуры і падскурнай клятчаткі — на 45%; інфекцыйныя хваробы — на 41% (малюнак 2).

Аднак самае дзіўнае палягае ў тым, што насельніцтва, што пацярпела ў выніку аварыі на ЧАЭС, радзей хварэе нават на тыя хваробы, на якія ранняя дыягностыка ніяк не распаўсюджваецца. Траўмы, атручванні і іншыя наступствы ўздзеяння знешніх прычын з «чарнобыльцамі» здараюцца на 25% радзей, чым з астатнімі беларусамі.

Пасля такіх дадзеных можа стварыцца ўражанне, што аварыя нават спрыяльна паўплывала на здароўе грамадзян. Бо такую істотную розніцу ва ўзроўні захворванняў складана спісаць выключна на больш высокую якасць медыцынскага абслугоўвання.

## Мёртвыя душы

Як такое магчыма? Каб адказаць на гэта пытанне, пастараемся высветліць, каго ж уключае Белстат у катэгорыю насельніцтва, пацярпелага ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Дадзеныя паказваюць, што ў 2016 годзе для разліку ўзроўню захворвання да гэтай катэгорыі грамадзян Белстат аднёс 1 мільён 542 тысячы чалавек. Пры гэтым, паводле Белстата, яшчэ на пачатак 2015 года колькасць насельніцтва, якое пражывае на забруджанай радыенуклідамі тэрыторыі, была 1 142 600 чалавек. У 2015 годзе на тэрыторыі Беларусі ў зоне радыеактыўнага забруджвання знаходзілася 2 383 населеныя пункты (28 гарадоў і пасёлкаў гарадскога тыпу і 2 355 сельскіх населеных пунктаў), што складала больш за 10% ад агульнай колькасці.

Самай праблемнай з'яўляецца Гомельская вобласць. Тут на пачатак 2015 года на тэрыторыі, забруджанай радыенуклідамі, пражывала каля 890 тысяч чалавек. На забруджанай радыенуклідамі тэрыторыі Магілёўскай вобласці — крыху больш за 110 тысяч чалавек. У зоне радыеактыўнага забруджвання на тэрыторыі Брэсцкай вобласці пражывала 114 тысяч чалавек.

Паколькі істотнага павелічэння колькасці насельніцтва на гэтых тэрыторыях у 2016 годзе не назіралася, можна зрабіць выснову, што павелічэнне колькасці «чарнобыльцаў» магло адбыцца толькі за кошт пашырэння пераліку тэрыторый, якія падпадаюць пад перыядычны радыяцыйны кантроль. У такім выпадку статыстычныя дадзеныя па захворваннях насельніцтва, пацярпелага ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС, карэляваліся б з дадзенымі па захворваннях у Гомельскай вобласці. Аднак гэтага не назіраецца.

Адсюль можна зрабіць выснову: статыстычныя дадзеныя па захворваннях грамадзян, якія пражываюць на тэрыторыях, пацярпелых у выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС, не адпавядаюць папярэднім звесткам Белстата і, хутчэй за ўсё, не з'яўляюцца сапраўднымі.

## Рэальная карціна

Калі ж дапусціць, што ў дадзеных Белстата за 2016 год дапушчана памылка, і на самай справе колькасць насельніцтва, якое пражывае на забруджаных тэрыторыях, не змянілася, дык будзе зусім іншая карціна.

У выніку атрымліваецца, што насельніцтва, пацярпелае ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, якое падлягае дыспансерызацыі, хварэе часцей астатніх беларусаў (малюнак 3).

У такім выпадку статыстычныя дадзеныя, прадстаўленыя Белстатам, ускосна пацвярджаюць несуцяшальны прагнозы навукоўцаў адносна згубнага ўплыву на здароўе беларусаў малых доз радыяцыі. Вядома, пры жаданні можна сцвярджаць, што прыведзеныя ў гэтым артыкуле разлікі статыстычна не даказваюць уздзеянне радыяцыі на ўзровень захворванняў, паколькі не ўлічваюць мноства іншых фактараў. Аднак скажэнне статыстычных дадзеных з мэтай утойвання рэальнай інфармацыі пра наступствы ўздзеяння радыяцыі на здароўе жыхароў забруджаных тэрыторый зусім не вырашае праблему захворванняў, а выклікае толькі здзіўленне.




**Малюнак 1. Узровень захворванняў па асобных хваробах у Рэспубліцы Беларусь з 2002 па 2016 гады.** Крыніца: дадзеныя Белстата




**Малюнак 2. Працэнтныя суадносіны ўзроўню захворванняў насельніцтва, пацярпелага ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС, да сярэдняга ўзроўню захворванняў астатняй часткі насельніцтва Беларусі ў 2016 годзе.** Крыніца: бюлетэнь Нацыянальнага статыстычнага камітэта Рэспублікі Беларусь




**Малюнак 3. Адкарэктаваныя працэнтныя суадносіны ўзроўню захворванняў насельніцтва, пацярпелага ў выніку аварыі на ЧАЭС, да сярэдняга ўзроўню захворванняў астатняй часткі насельніцтва Беларусі ў 2016 годзе.** Крыніца: дадзеныя Белстата, скарэктаваныя на колькасць насельніцтва, якое пражывала на тэрыторыі, пацярпелай ад аварыі на ЧАЭС, у 2015 годзе

# Вызваленне — пераход з адной турмы ў іншую





Мікалай ДЗЯДОК

**Усім палітвязням прагрэсіўных поглядаў, учорашнім, сённяшнім і будучым, з верай у тое, што ўсе турмы будуць знішчаныя, — прысвячаецца.**

Звычайны вечар на вуліцы Дабралюбава, 16 у горадзе Горкі. 14-я камера ПКТ. Папраўчая калонія №9. Жнівень.

Вячэра прайшла, вячэрняя праверка — таксама. У рэжымнай установе і ўвесь арганізм пачынае жыць па рэжыму: хацець спаць, есці, піць і хадзіць у прыбіральню па раскладзе. Вось і мы з Грыням (мой сукамернік) на сваіх 5-ці квадратных метрах падрыхтаваліся прайсці традыцыйны рытуал — вячэрняе піццё гарбаты. Гарбаты і ласункаў хапае — тыдзень таму была атаварка. Мы падрыхтаваліся, назапашваючы «нішцякі» і прадчувалі, як усё гэта рубанём заўтра, у мой дзень народзінаў. У чатырох бетонных сценах, у поўнай аднастайнасці, радасцяў не так шмат. І кава з шакаладкай — гэта адно з таго, што хоць часам прымушае мозг зэка выкідваць у кроў эндарфіны.

Ледзь дапіўшы гарбату, мы пачулі лязг «тармазоў». Нешта дзіўнае. Было каля 18 гадзін вечару, і ў гэты момант ніхто не мусіў прыходзіць. Тармазы адкрываюцца, за імі — краты. На парозе стаяць двое афіцэраў:

— Дзядок, збірай усё і збірайся. Пойдзем.

На душы стала трывожна. Звычайна такія змены нічым добрым не заканчваюцца. Куды? І чаму ў такі час? Зразумела, выконваць загад не спяшаюся:

— Куды збірацца? Навошта? У іншую хату? Ці на этап? У чым справа?

— Збірайся хутчэй, потым усё скажам! Галоўнае — рэчы свае забірай, усе цалкам.

Я не сыходжу, спрабую разгадаць гэты рэбус. У іншую хату? А сэнс? На этап і ў іншую зону? Але гэта робіцца зусім у іншы час і па іншай працэдуры. Можа, ПКТ мне нейкім цудам адмянілі і падымаюць назад у лагер? Але чаму тады не кажуць аб гэтым?

Пасля доўгіх спрэчак рэжымнік кажа:

— Коля. Усё будзе нармальна. Вось пабачыш. Збірайся.

Гляджу яму ў вочы і, здаецца, не хлусіць. Што рабіць — трэба ісці, калі захочуць — вынесуць. Сабраў амаль усе свае рэчы. Усе прысмакі, палову капэртаў, паштовак і стрыжняў пакінуў Грыню.

Выводзяць з ПКТ, ідзем на КПП (прапускны пункт паміж рознымі сегментамі зоны). Па дарозе яшчэ раз цікаўлюся ў рэжымніка: куды?

— Дамоў, — кажа.

Канешне ж, не веру. Наадварот, нарастае злосць — з такім нельга жартаваць.

Прыходзім на прапускны пункт, падымаемся на другі паверх. Я бачу — усе мае клункі, што былі пакінутыя ў атрадзе (тое, што ў ПКТ «не положено»), стаяць тут. Кажуць, што я вызвалены, і зараз мяне выведуць за межы калоніі.

Гэта было як удар па галаве. Мне падавалася, што вакол мяне адбываецца нейкі спектакль, што зараз з-за дзвярэй выскачыць опер у касцюме клоуна і пачне рагатаць: «Падманулі дурачка на чатыры кулачка!» Але нічога не адбывалася. Я сеў, і, напэўна, змяніўся ў твары. Рэжымнік, пабачыўшы мой стан, расхваляваўся, нават хацеў выклікаць доктара.

— Як вызвалены? На падставе чаго? Дзе дакумент? — я паспрабаваў прыйсці ў сябе і зразумець, што адбываецца.

— Нічога не ведаю... Мне сказалі цябе вызваліць — я вызваляю!

На КП, што вядзе на волю, — некалькі кодавых дзвярэй. Прайшлі адну. Перад другой у акенцы сядзіць яшчэ адзін, які пачынае правяраць маю асобу. Пытаецца імя, прозвішча, год нараджэння, адрас. На гэтае нараджэння пачынаю блытацца ў месяцах і днях, перапытваць яго — мозг зусім іншым заняты. Пачынае пакрыкваць.

Пераранка цягнецца паўхвіліны, пакуль не ўстраваюць тыя, што мяне выводзілі. Але на мой настрой гэта ніяк не паўплывала — дзіўна, што тыя падзеі ўвогуле засталіся ў маёй памяці. Даюць даведку аб вызваленні. У графе «Нагода вызвалення» — «Указ прэзідэнта «Аб памілаванні»». Ну, вось пазл і склаўся...

Адчыняюцца дзверы. Перада мной — вольны свет.

Радасць? Захапленне? Эйфарыя? Нічога падобнага. Я ў разгубленасці. Не разумею, што вакол мяне адбываецца. Трывога, адчуванне падазронасці. Шок. Як рыба, якую выкінулі на бераг, — лепшая метафара для таго стану, у якім я ў той момант знаходзіўся. Падавалася б, варта радавацца, што тое, чаго я так доўга чакаў, ажыццявілася, прытым так нечакана і безумоўна. Але я ў разгубленасці. Я выйшаў з іншага свету, дзе поўная прадказальнасць, распарадак. Упэўненасць — не смейцеся! — у заўтрашнім дні. Дзе батончыкі бабруйскай халвы ў атаварцы, бібліятэка раз на тыдзень, сукамернік Грыня са сваімі гісторыямі. Я ведаў, як рухацца, як жыць, у чым быць упэўненым, а ў чым — не. А зараз я — у новым сусвеце, і не ведаю, што ад яго чакаць.

Перад уваходам стаіць патрыманая «Лада». Каля яе — два нейкіх чувакі. Гэбэшнікі, канешне. Падыходзяць.

— Сядай, паехалі.

— Ну паехалі, — кідаю сумкі ў багажнік.

Спрабую іх разгаварыць. «З якой структуры? Мясцовыя-немясцовыя?» Маўчаць. Сонца хіліцца на захад. Я гляджу ў акно, як зачараваны. Гэтага не можа быць. Палі, лясы... Каровы нейкія пасвяцца. Як быццам бы глядзіш фільм. Не, гэта адбываецца не са мной.

За ўсю паездку я ні разу не запытаўся іх, куды едзем. Палічыў, што альбо ў Оршу, альбо ў Магілёў. Прыехалі ў Оршу на чыгуначны вакзал. Пайшоў у прыбіральню, каб зняць лішняе адзенне — амаль усё, што дазволена ў ПКТ, было на мне апранута. А тут — камфортна. Я не мерзну. У камернай сістэме не бывае камфортна. Амаль увесь час табе альбо надта холадна — і ты апранаешся як капуста, альбо табе надта спякотна — і ты ходзіш у майтках. А тут — звычайна, і няма патрэбы ўцяпляцца... Прыйшлося зняць лішняе. Там жа, на месцы, выкінуў палову змесціва кешараў. Яшчэ перад выхадам з зоны хацеў пакінуць гэта тым, хто мае патрэбу. Не далі.

Старая целагрэйка, ватныя штаны (усё — хэндмэйд з крытай), тапкі, у якіх адтупацеў усе 5 гадоў, туалетная папера, некалькі пачакаў цыгарэт, паплаўленая пластыкавая кружка, выцвілая роба... Хаця не, робу пакіну на памяць. Сабраў торбу, але выкінуць у сметніцу рука не паднялася. У зоне гэта — цэлы скарб, а тут нікому не патрэбна. Пакінуў кешар побач са сметніцай — можа, нейкі бяздомны забярэ. Усё ж такі целагрэечка не такая ўжо і дрэнная!

У нагрудней кішэні ў гэбэшніка бачу білет на цягнік. Зразумела — чакае, каб мяне адправіць. Спрабую выпрасіць білет: сам даеду, кажу, не прападу. Не дае. Загад, ясная справа...

Цягнік прыходзіць. Мяне суправаджаюць да самага вагону. Гэбіст дае білет. Праходжу ў вагон, аглядваюся. У мяне дзве здаровыя клетчатыя торбы. Я падобны на мяшанцу беспрытульніка і чаўнака. Спрабую прыйсці ў сябе.

Потым быў званок родным з тэлефона спадарожнікаў: выпадковых, але вельмі добрых людзей, нявесткі і свякрові, што ехалі ў Кобрын. Даведаўшыся, што я толькі вызваліўся, узяліся паіць мяне гарбатай, карміць бананамі і снікерсамі. Праразмаўлялі з імі ўсю дарогу, і 2,5 гадзіны прайшлі незаўважна.

Выходжу на перон. Там ужо стаіць адзін у цывільным з відэакамерай. Хто б сумняваўся... З боку падземнага пераходу на мяне літаральна ляціць дзясятак чалавек: хто бягом, хто на роварах. Я кідаю кешары на асфальт і абдымаюся з усімі, з кожным па чарзе. Божа мой, як вы змяніліся... Некаторых пазнаў далёка не адразу. А людзі ўсё прыходзілі. Усе тыя, хто быў часткай майго папярэдняга жыцця, каго я не бачыў пяць гадоў. Яны не забыліся пра мяне. Яны прымчаліся на вакзал, у апошнюю хвіліну даведаўшыся, што мяне вызвалілі. Многіх не чакаў пабачыць: Вольга Мікалайчык, Дзмітры Дашкевіч. А вось і журналісты. Задаюць пытанні, я ў адказ нясу нейкія шаблонныя ўра-антырэжымныя глупствы. Але за адно пытанне гатовы літаральна прыбіць: «Якія вашы планы?»

Рабяты, якія яшчэ планы?! Я толькі што з бетоннай каморкі 2х2 метры, у мяне свет звузіўся ў кропку. Я яшчэ не зразумеў, дзе я. Мой мозг, душа і ўспрыманне дагэтуль у 14-й хаце. Яшчэ 4 гадзіны таму мае планы былі: зранку прыбраць хату, зрабіць ёгу і ўзяцца за Джэка Лондана з бібліятэкі. Аб чым вы ўвогуле пытаецеся?!

Так атрымалася, што на момант майго вызвалення нікога з родных не было ў Мінску. Але яшчэ да паўночы мы ўжо сустрэліся.

У тую ноч я ніяк не мог заснуць. Арганізмам авалодаў нейкі зусім не зразумелы стан. Я хадзіў па кватэры і рабіў на аўтамаце нейкія рэчы, якія не рабіў гадамі: адкрываў халадзільнік, заходзіў у інтэрнэт, умываўся гарачай вадой. Рукі памяталі, як абыходзіцца з усім гэтым, а свядомасць — не.

На разуменне таго факту, што я зараз жыву не ў турме, мне спатрэбілася чатыры дні. Да гэтага часу, калі б мяне вярнулі назад, я б папросту нічога не адчуў — мой кароткатэрміновы выхад забыўся б, як шараговая прагулка ў дворыку ПКТ. Памяць проста выкрасліла б гэтае здарэнне, як яго і не было.

Але ў гэтым, калі прыглядзецца, ёсць глыбокі філасофскі сэнс. Бо ўсё, што адбылося са мной, — толькі пераход з адной турмы ў іншую. Жыццё, якое мы прывыклі лічыць вольным, насамрэч такім не з'яўляецца. Свабода — гэта як вялікі крэмавы торт, і яго немагчыма з'есці ў адзіночку — метафара не мая, але ж дужа трапная.

Пакуль несвабодны нехта адзін — несвабодныя ўсе мы. І адзінае, што нас між сабой адрознівае, — хіба што рэжымы ўтрымання.

**Фота з архіву аўтара**

> **У тую ноч я ніяк не мог заснуць. Арганізмам авалодаў нейкі не зразумелы стан. Я хадзіў па кватэры і рабіў на аўтамаце рэчы, якія не рабіў гадамі: адкрываў халадзільнік, заходзіў у інтэрнэт. Рукі памяталі, як абыходзіцца з гэтым, а свядомасць — не**

**Людзі з сіндромам Даўна могуць працаваць, вандраваць, граць у тэатры. Аднак наша грамадства пакуль не вельмі гатовае да таго, каб гэта прыняць**



Кацярына лічыць, што выхоўваць дзіця з сіндромам Даўна не складана

**Мы не бачылі ніякіх адрозненняў. Дзіцяці тры месяцы, яно табе ўсміхаецца. А колькі храмасом — якая розніца? Вядома, калі ты чакаеш дзіця, будуеш пэўныя планы: маё дзіця будзе самым лепшым, самым разумным, будзе лекарам, юрыстам. І адразу дыягназ было складана прыняць**

# Букет кветак замест дзіцяці з сіндромам Даўна

*Уладзіслаў РУБАНАЎ*

Стэрэатып пра тое, што такія людзі — ні на што не здатныя, склаўся з-за даследаванняў, што праводзіліся ў часы СССР на дзецях, ад якіх адмовіліся бацькі.

Сапраўды, дзеці з сіндромам Даўна развіваюцца з пэўным адставаннем. Яны пазней пачынаюць поўзаць, стаяць, сядзець, размаўляць. Разумовая адсталасць, якая ў рознай ступені выяўляецца ў кожнага з іх, будзе суправаджаць іх усё жыццё. Яны разумеюць, што ім кажуць, яны могуць камунікаваць з іншымі людзьмі. Але ім цяжэй вучыцца, абслугоўваць сябе, перасоўвацца па-за домам.

У Беларусі сіндром Даўна — не рэдкасць: прыкладна адзін выпадак на 640 народжаных. Сіндром узнікае з-за працэсу разыходжання храмасом пры ўтварэнні гамет, у выніку чаго дзіця мае лішнюю 21-ю храмасому. Сутнасць гэтай з'явы пакуль не зразумелая. Акрамя памылак пры дзяленні клеткі, прычынай сіндрому можа стаць спадчыннасць.

### Чаму гэта здарылася з намі?

Калі бацькі даведваюцца, што ў іх народзіцца дзіця з сіндромам Даўна, першая рэакцыя — шок. Адразу ўзнікае маса пытанняў: «Чаму гэта здарылася з намі? Як дзіця будзе жыць?»

У такім стане многія прымаюць цяжкае рашэнне перарваць цяжарнасць. Па статыстыцы, пры выяўленым сіндроме Даўна ў плода больш за 90% жанчын робіць аборты на позніх тэрмінах. Але ў заходніх краінах бацькі ўсё часцей вырашаюць даць дзіцяці шанец на жыццё. І гэта часцяком залежыць менавіта ад таго, як грамадства ставіцца да людзей з сіндромам Даўна ды якія ўмовы для самарэалізацыі для іх створаныя.

Сіндром Даўна ў плода, як правіла, выяўляюць падчас абавязковых скрынінгаў, якія ў нашай краіне праходзіць кожная цяжарная. Аднак бывае, што ніякія аналізы і ўльтрагукавыя даследаванні не паказваюць, што з дзіцём нешта не тое.

Кацярына, маці 12-гадовай Тані з сіндромам Даўна, распавядае, што падчас цяжарнасці яна рабіла патрэбныя УГД, і ўсё паказвалася добра. Пра тое, што ў дачкі сіндром Даўна, яна даведалася, толькі калі дзяўчынка з'явілася на свет.

У аналагічнай сітуацыі апынулася і Ася, маці двухгадовай Насці. Падчас цяжарнасці яна прайшла праз тры УГД — ніхто нічога не заўважыў. Гінеколаг потым казаў: «Мы не бачым, таму што нам не даюць убачыць звыш. Бо мы ж пачнём прапаноўваць тое, што прынята: спыніць цяжарнасць».

Але даведацца — гэта адно. Што рабіць пасля таго, калі бацькі прымаюць рашэнне даць жыццё дзіцяці? Як правіла, бацькі (і маці асабліва) аказваюцца са сваім горам сам-насам. Яны не атрымліваюць ніякай псіхалагічнай дапамогі.

— Я адчувала моцны стрэс, ні я, ні мой былы муж не былі да гэтага маральна гатовыя, — кажа Кацярына. — Але самым сумным было тое, што нават дактары моцна ціснулі, каб мы адмовіліся ад дзіцяці. У лякарні я правяла паўтара месяцы, і ўвесь гэты час са мной кругласутачна «працавалі». Казалі, што такое дзіцё мне не патрэбна. Лепей набудзьце сабе букет кветак, дома пастаўце — ён будзе больш радаваць. Гучала мноства стэрэатыпаў, што дзіцё не будзе ні хадзіць, ні размаўляць. Мая рэакцыя была адназначная, а вось муж так і не змірыўся — мы рассталіся. Але зараз, праз 12 гадоў, магу сказаць дакладна: я не шкадую ні хвіліны, што так склаўся лёс.

Кацярына кажа, што ёй шмат у чым хлусілі, калі, напрыклад, казалі, што дзяўчынка не будзе пазнаваць бацькоў — няма ніводнага дзіцяці з сіндромам Даўна, які б не пазнаваў сваіх бацькоў.

Другой суразмоўцы, Асі, пацверджання дыягназу ў народжанай дачкі давялося чакаць тры месяцы. Прабірку з крывёй на аналіз з Пінска адвезлі ў Брэст. Інфармацыю па тэлефоне доўга не давалі, бо генетык хварэў. Урэшце Ася не вытрымала і паехала па аналізы сама. Але тады ёй ужо было ўсё роўна: выявіцца ў дзіцяці сіндром ці не.

— Мы не бачылі ніякіх адрозненняў, — кажа Ася. — Дзіцяці тры месяцы, яно табе ўсміхаецца, што і павінна рабіць у такім узросце. А што там будзе напісана, колькі храмасом — якая розніца? Вядома, калі ты чакаеш дзіця, будуеш пэўныя планы: маё дзіця будзе самым лепшым, самым разумным, будзе лекарам, юрыстам. І адразу дыягназ было складана прыняць. Калі я ішла з ёй у краму, мне здавалася, што ўсе на нас глядзяць, пальцам паказваюць. Насамрэч гэтага не было, толькі ў маёй галаве. Сорамна нават прызнацца, што ў мяне былі такія думкі.

### Самае складанае — перамагчы стэрэатыпы

Кацярыне аказалі першую дапамогу толькі ў Цэнтры ранняга ўмяшання ЮНЕСКА, пра які яна даведалася ад сваёй маці. Тут працуюць з дзецьмі да трох гадоў.

Да таго моманту, як Кацярына трапіла ў гэты цэнтр, ёй здавалася, быццам яна адна супраць усяго свету. І побач не было ніякага спецыяліста, які б падказаў, што рабіць.

— Калі мяне зараз пытаюцца, ці складана выхоўваць дзіця з сіндромам Даўна, я заўсёды кажу: не, — расказвае Кацярына. — Калі ты любіш сваё дзіця, калі ты верыш у яго, калі ў цябе галоўная задача зрабіць яго шчаслівым — гэта нескладана. Самае складанае — перамагчы стэрэатыпы грамадства і прабіць нашы дзяржаўныя ўстановы, каб даць свайму дзіцяці шанец. На жаль, да гэтага часу існуюць забабоны, што сіндром Даўна і глыбокая разумовая адсталасць — адно і тое ж: дзеці не навучаюцца, для іх не прадугледжваецца ні агульных школ, ні агульных садкоў. Я ўжо не кажу пра прафесійна-тэхнічныя ўстановы, працу і стварэнне сям'і. Хоць нашы дзеці здольныя на ўсё гэта.

Мая Таня пайшла ў звычайны садок у тры гады. Я схавала дыягназ, папрасіла лекара зашыфраваць яго. Занесла загадчыцы даведку без дачкі. Але я гутарыла з выхавацелямі, яны пагадзіліся нас узяць. І зараз я магу сказаць, што асноўную базу сацыялізацыі, крок наперад, мы атрымалі менавіта ў садку. Дзеці з сіндромам могуць рабіць вельмі многае на перайманьнай здольнасці. Для іх вельмі важна знаходзіцца ў коле звычайных аднагодкаў, каб глядзець, як стасуюцца іншыя, як будуецца сацыяльнае асяроддзе.

Кожная маці дзіцяці з сіндромам чуе: «У вас выдатнае дзіця». Так, мы бачым, якое яно развітае, але ёсць кнігі, напісаныя 40 гадоў таму, у якіх гаворыцца, што сіндром Даўна — гэта глыбокая разумовая адсталасць, а такія дзеці могуць хадзіць толькі ў спецшколу, і вышэй гэтага не скокнуць. Вось з гэтым найбольш цяжка змагацца.

Узнікае дзіўная сітуацыя: сіндром Даўна прызнаецца лёгкай ступенню інваліднасці. У выніку мы не можам прэтэндаваць на санаторна-курортнае лячэнне, куды бяруць толькі цяжкіх дзяцей. Але чаму тады нас не пускаюць у звычайныя школы і садкі? Падвойныя стандарты: з аднаго боку, мы не можам забяспечыць вам эканамічнае выжыванне; з іншага — не даюць дзіцяці паспрабаваць жыць нармальным паўнавартасным жыццём.

А вось у Асі ў Пінску праблем з паступленнем у садок, падаецца, няма.

— Нам наадварот кажуць, каб мы ішлі ў звычайны садок, бо дзіцяці трэба сацыялізацыя. Канешне, бывае, нехта кажа: «Дзіцёнка з сіндромам Даўна ў садку, куды ходзіць мой малы, не будзе». Але такія заявы — парушэнне ўсіх правоў.

А што будзе, калі дзіцё з сіндромам адправіць вучыцца са звычайнымі дзецьмі?

Таня вучыцца ў інтэграваным класе. І ўсе дзеці ў школе ўжо першапачаткова разумеюць, што ёсць іншыя людзі: хтосьці на вазку, хтосьці дрэнна ходзіць, хтосьці дрэнна размаўляе; камусьці патрэбна дапамога ў

нейкіх момантах. Вучыцца яна нядрэнна: на 6–7 балаў. У Тані ёсць сябры і нават бойфрэнд — хлопчык на вазку.

Насця, дачка Асі, у свае два гады ўжо ведае алфавіт. Яна любіць вучыцца: займаецца дома з педагогам і дэфектолагам, ходзіць у нядзельную школу, прызвычайваецца да працы.

— Агульнае навучанне развівае патэнцыял дзяцей, — лічыць Кацярына. — Стымулюе на тое, што, калі чалавек з асаблівасцямі можа дамагацца поспехаў, значыць, я магу рабіць гэта ў пяць разоў лепш. Плюс да ўсяго дзяржава выйграла б адназначна, калі б працоўныя месцы займалі ў тым ліку і людзі з інваліднасцю.

Гэтак жа мяркуе і псіхолаг Сяргей Хонскі, які выступае за інклюзію — уключэнне людзей з інваліднасцю ў паўнавартаснае грамадскае жыццё.

— Узровень магчымасцяў гэтых дзяцей павінен ацэньвацца толькі індывідуальна. Па гэтай прычыне любыя абагульненні з'яўляюцца прынцыпова памылковымі. Веданне фізічнага або псіхічнага стану чалавека нельга адрываць ад разумення яго індывідуальнасці. Інклюзіўная сістэма адукацыі — аптымальны спосаб навучання, які мае станоўчыя наступствы і для звычайных дзяцей, і для дзяцей з асаблівасцямі развіцця (у тым ліку з сіндромам Даўна). Сумеснае навучанне спрыяе фармаванню ў звычайных дзяцей талерантнасці, а таксама такіх маральных якасцяў, як дабрыня, эмпатыя і гэтак далей.

Калі магчымасці дзяцей з асаблівасцямі развіцця дазваляюць навучацца ў звычайнай школе, то навучанне павінна праходзіць у ёй. Бо галоўная праблема дзіцяці з ментальнай інваліднасцю — парушэнне сувязі з сусветам, абмежаваная мабільнасць, беднасць кантактаў з аднагодкамі, недахоп зносін, недаступнасць элементарных рэчаў. Чым раней дзіця з сіндромам Даўна сустрэне ўсе цяжкасці рэальнага грамадства, тым хутчэй яно адаптуецца да іх. Іншыя ж формы навучання (навучанне дома або ў інтэрнаце), наадварот, часцяком перашкаджаюць фармаванню нармальных узаемаадносін дзяцей з асяроддзем, зніжаюць іх сацыяльную актыўнасць і прыводзяць да ізаляванасці. Інклюзія дзіцяці з сіндромам Даўна павінна пачынацца як мага раней, з дзіцячага садка або з першага класа школы, бо так хутчэй праходзіць адаптацыя да новага асяроддзя.

## «Навошта яна яго нарадзіла?»

Ася неяк сутыкнулася з каментарамі да аднаго з артыкулаў пра яе. Артыкул быў не пра праблемы дзяцей з сіндромам Даўна, але была маленькая спасылка, што ў дзіцяці — сіндром Даўна.

— Каб вы бачылі гэтыя каментары! «Чаму мы павінны дапамагаць гэтым дэбілам?»; «Даўнаў няма чаго лячыць»; «Так, яны мілыя і пухнатыя, але лячыць іх? Навошта дзяржава будзе марнаваць час і грошы на іх?»; «Куды глядзела маці, навошта яна яго нарадзіла?». Гэта на тыдзень выбіла мяне з каляіны. Пасля гэтых каментараў, калі я выходзіла кудысьці, першы час мне хацелася апранаць даспехі, браць з сабой меч або біту. Спрацоўвае мацярынскі інстынкт, калі крыўдзяць тваё дзіця.

Для таго, каб даць шанец свайму дзіцяці з сіндромам Даўна на звычайнае жыццё, бацькам даводзіцца сутыкнуцца са сцяной стэрэатыпаў як грамадства, так і дзяржаўных устаноў. З-за гэтых сцен складана ўбачыць святло будучыні.

Псіхолаг Сяргей Хонскі адзначае, што адна з галоўных праблем — мноства забабонаў адносна людзей з сіндромам Даўна.

— Задача грамадства, хаця б паспрабаваць паслабіць такія стэрэатыпы. Прычыны негатыўнага стаўлення да людзей з сіндромам Даўна на ўзроўні соцыуму: нізкі ўзровень талерантнасці да людзей з асаблівасцямі развіцця, які выяўляецца ў негатоўнасці кантактаваць з імі, у адсутнасці цікавасці да праблемы, наяўнасці стэрэатыпаў сярод насельніцтва.

Нізкі ўзровень інфармаванасці аб прычынах інваліднасці, асаблівасцях сіндрому Даўна спараджае ў многіх страх за сябе і блізкіх, «боязь заразіцца». Нашы СМІ толькі пачынаюць рабіць першыя крокі па асвятленні гэтай праблемы. Можна заўважыць, што на сучасным тэлебачанні няма спецыяльных перадач пра людзей з інваліднасцю, пра дзяцей з асаблівасцямі развіцця, пра іх жыццё, дасягненні; сумесных тэлепраектаў, дзе прымалі б удзел здаровыя дзеці і дзеці з асаблівасцямі развіцця...



Толькі комплексная праца па інфармаванні пра сіндром Даўна, якая ўключае правядзенне трэнінгаў талерантных паводзін, падрыхтоўку высокакваліфікаваных педагогаў, арганізацыю культурных мерапрыемстваў, укараненне ідэй інклюзіўнай адукацыі, асвятленне праблемы ў СМІ і гэтак далей дазволіць аслабіць прадузятасці ў дачыненні да людзей з сіндромам Даўна.

## Даць шанец на будучыню

Сіндром Даўна сам па сабе не нясе пэўных прыкмет, якія не далі б дзіцяці нармальна развівацца і сацыялізавацца ў грамадстве, жыць паўнавартасным жыццём. Але, на жаль, ён часта суправаджаецца іншымі захворваннямі: у многіх праблемы з сэрцам, у кагосьці здараюцца сутаргавыя сіндромы, праблемы са зрокам, са слыхам. Гэта таксама накладае адбітак. Таму ўсе дзеці розныя. Камусьці сапраўды падыдзе спецыяльная школа, і дзіця будзе адчуваць сябе там камфортна. А камусьці трэба даць шанец паспрабаваць вучыцца ў звычайнай школе. У такіх бацькоў павінен быць выбар. Але яго зараз няма.

— У нас вялікія праблемы з сэрцам, — кажа Ася. — Хваробу выявілі, калі Тані было 10 месяцаў, а такія рэчы павінны аперавацца ўжо ў паўгода. У Пінску не ўбачылі, у Мінск змаглі трапіць толькі праз тры месяцы. Але і ў Мінску ўсё адкладалі, а потым запыталіся: «А што вы так позна?» Дачцэ не змаглі зрабіць аперацыю і сказалі, што яна пражыве толькі два-тры гады. Але цяпер, дзякуючы Асацыяцыі дапамогі хворым з лёгачнай гіпертэнзіяй, яна прымае прэпараты, якія могуць падоўжыць ёй жыццё да 20 гадоў. Наколькі мне дазволяць час і фінансы, я буду рабіць усё, каб Таня пражыла адведзеныя ёй гады ў радасці. Хацелася б, каб яна за гэты час набрала паболей яркіх малюнкаў у сваім жыцці.

Гэта няпроста. Часам мне самой не хапае часу, бо ўвесь час даводзіцца браць нейкія падпрацоўкі, каб зарабіць нейкую капейчыну. Муж атрымлівае няшмат. Яе пенсія — 170 і мае 200 — мая дапамога і дэкрэтныя. Канешне, я буду выходзіць на працу. Дзякуй Богу, дзяржаве хапіла розуму дазволіць нам працаваць на паўстаўкі і захаваць дапамогу па доглядзе за дзіцём-інвалідам.

Нягледзячы на тое, што дактары адвялі Тані толькі 20 гадоў жыцця, Ася ўвесь час марыць пра тое, кім будзе яе дачка. Як складзецца яе лёс.



Псіхолаг Сяргей Хонскі

**Нізкі ўзровень інфармаванасці аб асаблівасцях сіндрому Даўна спараджае ў многіх «боязь заразіцца». Нашы СМІ толькі пачынаюць рабіць першыя крокі па асвятленні гэтай праблемы. Пакуль у Беларусі ў адносінах да такіх людзей пануюць стэрэатыпы і забабоны**

— Паколькі Таня любіць сацыяльнае ўзаемадзеянне, то я яе бачу памочнікам кухара або афіцыянта, — кажа Кацярына. — Мне б вельмі хацелася прабіць дарогу ў нашы прафесійна-тэхнічныя вучэльні, каб яна магла атрымаць адэкватную прафесію. Зараз, калі нам дадуць даведку, што можам пайсці ў вучэльню, яе возьмуць альбо на муляра-тынкоўшчыка, альбо на клейшчыка абутку. Перспектыва не вельмі прыемная. Таму зараз спрабуем стварыць арганізацыю, каб адстойваць правы нашых дзяцей. Я хачу бачыць сацыяльна актыўнага чалавека: рознабаковага, з асабістым жыццём. Спадзяюся, што яна знойдзе сваю другую палову, створыць сям'ю, будзе працаваць і забяспечваць сябе. Я ведаю, што яна гэта можа.

Наконт працы, як прыклад, можна прывесці гатэль «Рэнесанс», дзе працуюць два чалавекі з сіндромам Даўна: адзін памочнікам на кухні, другі — пры пральні. Праўда, дырэктар гатэлю — датчанін. Уладкаваць усіх людзей з сіндромам Даўна ў «Рэнесансе» немагчыма. Пытанне ў тым, ці чакаць ініцыятывы ад нашых працадаўцаў? Як гэта наогул можа выглядаць?

— Я не маю апошняй статыстыкі, але, калі абапірацца на дадзеныя СМІ, досвед працаўладкавання людзей з сіндромам Даўна ў Беларусі пакуль яшчэ малы, — кажа Сяргей Хонскі, сфера прафесійных інтарэсаў якога — якраз псіхалогія працы. — Іх працаўладкаванне ў адну з мінскіх гасцініц — на жаль, выключэнне, а не правіла. Тым не менш, ёсць замежныя практыкі садзейнічання занятасці людзей з сіндромам Даўна.

У Італіі ёсць рэстаран, дзе працуюць сямёра людзей з такім дыягназам. Пры гэтым яны не толькі абслугоўваюць кліентаў як афіцыянты, але і займаюцца кухняй. У Пскоўскай вобласці ёсць вытворча-інтэграцыйныя майстэрні, іх асноўная мэта — прафесійная і сацыяльная рэабілітацыя людзей з асаблівасцямі ў развіцці. Майстэрні дапамагаюць засвоіць розныя віды прафесійнай дзейнасці. Там ёсць трэніравальнае аддзяленне, галоўная задача якога — падбор адэкватнага віду дзейнасці (напрыклад, дрэваапрацоўка, швейная аддзяленне, пральні) для кожнага чалавека з ментальнай інваліднасцю. У многіх краінах свету людзі з сіндромам Даўна працуюць у офісах, у сферы грамадскага харчавання, крамах.

Паводле меркавання Сяргея, важна ствараць спецыяльныя вакансіі для людзей з сіндромам Даўна. Некамерцыйныя арганізацыі могуць прымаць удзел у арганізацыі майстэрняў, якія забяспечваюць працэс падрыхтоўкі да розных прафесійных сфер. Важна таксама развіваць прафарыентацыйны кірунак працы з людзьмі з сіндромам Даўна.

У нашай краіне ёсць пазітыўны досвед рэалізацыі праектаў, накіраваных на стварэнне станоўчага вобразу людзей з інваліднасцю і падтрыманне прыязнага да іх стаўлення праз СМІ і пры дапамозе мастацтва. Напрыклад, праект «Мастацтва за інклюзію людзей з інваліднасцю», які рэалізоўваўся грамадскай арганізацыяй ГА «БелАДДіІМІ» пры падтрымцы USAID з 2014 па 2016 год.

Аднак пакуль у Беларусі ў адносінах да людзей з сіндромам Даўна збольшага пануюць стэрэатыпы і забабоны. Пакуль наша грамадства не гатовае напоўніцу даць такім людзям шанец на будучыню і жыццё побач. Уласна кажучы, наша грамадства наогул не вельмі гатовае даваць шанец любым людзям, якія хоць нечым адрозніваюцца ад прынятай нормы. І дзеці з сіндромам Даўна — толькі адзін прыклад.

Чым раней мы пачнём мяняць свой погляд, чым раней мы зразумеем праблему, якая стаіць перад намі, — тым хутчэй дапаможам ім здабыць новы шлях, які цяпер зачынены.

А пакуль Кацярына і Ася мараць пра тое, як іх дачушкі вырастуць, знойдуць сваё каханне, любімую працу, народзяць сваіх дзяцей і будуць яшчэ шмат гадоў радаваць сваімі светлымі ўсмешкамі.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ПАЎНОЧНАЯ АСЕЦІЯ. Ніхто не хоча ў Расію

Прэзідэнцкія выбары ў Паўднёвай Асеціі ўпершыню сталі нагодай для зайздрасці паўночных асецін да паўднёвых. У Паўночнай Асеціі апошнімі гадамі працягвалася закручванне гаек, а сітуацыя ў Паўднёвай Асеціі развівалася ў процілеглым кірунку, каб зрабіць для Захаду ілюзію дэмакратыі. Нагадаем, што дзейны кіраўнік рэгіёну Леанід Цыблаў нечакана прайграў спікеру парламента Анатолю Бібілаву. Між тым, у Паўночнай Асеціі ніякіх выбараў кіраўніка няма ўвогуле — паводле Канстытуцыі, ён прызначаецца Масквой. Як следства, мясцовая прэса пачала кампанію за тое, каб вярнуць інстытут выбараў кіраўніка рэгіёну. Нават у парламенце Паўночнай Асеціі прапанавалі пераняць досвед Паўднёвай Асеціі для забеспячэння празрыстасці і парламенцкіх выбараў. Паўночнаасецінскім парламентарыям асабліва спадабалася, што ў паўднёвых суседзяў прадстаўнікі партый мелі права ставіць свае подпісы на адваротным баку выбарчых бюлетэняў. У сувязі з новымі трэндамі, некаторыя нават упершыню задаюць пытаннем: а ці захоча Паўднёвая Асецыя ўвайсці ў склад Расіі, каб стаць такім жа рэгіёнам без выбараў, як і Паўночная Асецыя?

**Паводле расійскай прэсы**

### КІТАЙ. Дзіця па-мусульманску не назавеш

Успіс забароненых у Кітаі імёнаў уключаныя мусульманскія. Паводле СМІ, цяпер забаронена даваць нованароджаным такія імёны, як Іслам, Каран, Мека, Джыхад, Імам, Садам, Хадж і Медына. Забарона, безумоўна, тычыцца насельніцтва паўночнага захаду Кітая, дзе жыве шмат мусульман, частка з якіх сімпатызуе радыкальным ісламістам. Для лакалізацыі ўплыву фундаменталістаў, хутчэй за ўсё, і ўводзіцца «чорны спіс» мусульманскіх імёнаў. Дзеці з «няправільнымі» імёнамі не будуць рэгістравацца ў адміністратыўных органах, без чаго нельга атрымаць права на бясплатнае медыцынскае забеспячэнне і пачатковую адукацыю. Цікава, што патрапілі пад новы закон і этнічныя казахі, якіх таксама вельмі шмат у тым рэгіёне КНР. Некаторыя з іх звярнуліся па дапамогу да Астаны, дзе дзеянні кітайскіх уладаў, наадварот, падтрымалі. Як піша казахскі афіцыёз, казахі павінны называць дзяцей не Ісламамі і Джыхадамі, а імёнамі вялікіх казахскіх батыраў мінулага. Між тым, па той бок мяжы кажуць, што казахскія імёны таксама выклікаюць падазрэнне ў кітайскіх чыноўнікаў.

**Паводле казахскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. Ці хацеў Ле Пэн забіць Дэ Голя?

Прэзідэнцкая кампанія ў Францыі дасягнула фіналу. Вельмі часта апаненты гулялі на мяжы фолу. У адным з выступаў незалежны кандыдат Эмануэль Макрон абвінаваціў канкурэнтку Марын Ле Пэн у тым, што яе партыя «Нацыянальны фронт» планавала забіць Дэ Голя. Такая жорсткая крытыка прымусіла публіку звярнуцца да гісторыкаў. Апошнія асцярожна каментуюць заявы Макрона, паколькі «Нацыянальны фронт» існуе з 1972 года, а замахі на Дэ Голя мелі месца ў 1959–1960 гадах. Іх арганізатарамі была сакрэтная групоўка OAS, якая выступала за тое, каб Алжыр застаўся часткай Францыі. Жан-Мары Ле Пэн, заснавальнік «Нацыянальнага фронту», ніколі не быў сябрам вайсковага падполля. З іншага боку, відавочна, што часткай электарату і актыву «Нацыянальнага фронту» з самага пачатку яго існавання былі аматары французскага Алжыра. Лепшай ілюстрацыяй з'яўляецца першая праграма партыі, аўтары якой абяцаюць выйсці з дамоваў, паводле якіх Парыж вызнаваў алжырскі суверэнітэт. Праўда, шэраг каментатараў дапускаюць, што Жан-Мары Ле Пэн меў больш шчыльныя кантакты з OAS. Аднак з улікам уласцівага гэтай структуры вельмі сур'ёзнага ўзроўню канспірацыі, наўрад ці маладога Жан-Мары дапускалі да падрыхтоўкі замахаў на Дэ Голя.

**Паводле французскай прэсы**

### НОВАЯ ЗЕЛАНДЫЯ. Суіцыд не пройдзе

УНовай Зеландыі з'явіліся незвычайныя цэнзурныя абмежаванні для фільмаў — катэгорыя RP18. Калі ў анонсе або рэкламе фільм пазначаецца гэтай катэгорыяй, гэта значыць, што дзеці ва ўзросце да 18 гадоў могуць глядзець фільм выключна ў кампаніі з дарослымі. За кошт новай маркіроўкі ўлада намагаецца спыніць моду на суіцыд сярод падлеткаў, якіх, як лічаць псіхолагі, часта штурхаюць на смерць падзеі на экране. Новая Зеландыя — абсалютны лідар па колькасці самазабойстваў сярод дзяцей сярод развітых краінаў. Штотыдзень у краіне фіксуецца прыкладна дзве падобныя трагедыі. Лічыцца, што гэты феномен неяк звязаны з асаблівасцямі менталітэту новазеландцаў. Чамусьці жыхары краіны больш эмацыйна, чым іншыя нацыі, рэагуюць на нейкія праблемы. Застаецца дадаць, што RP18 мае канкрэтную задачу. Новая цэнзура павінна не дапусціць росту колькасці актаў суіцыду ў сувязі з выхадам на экраны серыялу «13 Reasons Why» («13 прычынаў чаму»), які распавядае пра дзяўчынку, якая наклала на сябе рукі.

**Паводле брытанскай прэсы**



Фота www.focus.ua

# Каму закон СССР не пісаны?

Алег НОВІКАЎ

**Ужо хутка ва Украіне можна будзе сеяць індыйскія каноплі і не вучыць рускую мову. Гэтыя і многія іншыя практыкі будуць легалізаваныя дзякуючы запланаванай на май адмене ўсіх (!) законаў савецкага часу.**

Ідэю адмяніць усе законы, якія былі прынятыя да 1991 года, высунуў кіраўнік Мінюста Павел Пятрэнка (партыя «Народны фронт»). Яго падтрымаў прэм'ер-міністр Гройсман. «Дэкамунізацыя» нарматыўна-прававой базы прызначаная на гэты месяц, а дакладней — на 16 мая, калі збярэцца парламент, якому прапануюць адпаведны законапраект.

Непасрэдна праект закона прадугледжвае страту дзеяння на працягу 6 месяцаў усіх падзаконных актаў міністэрстваў, ведамстваў, камісій, прэзідыумаў, якія былі прынятыя да здабыцця Украінай незалежнасці. На працягу года з моманту набыцця моцы згаданага закона адмяняюцца ўсе законы УССР і СССР, якія дзейнічаюць ва Украіне. Нарэшце, на працягу яшчэ трох гадоў страцяць сілу ўсе савецкія кодэксы. Усяго под закон патрапяць каля 5700 актаў.

Навошта спатрэбілася такая радыкальная рэформа? Па-першае, сапраўды, у прававых рэстрах вельмі шмат анахранізмаў і кур'ёзаў. Напрыклад, ва Украіне да гэтага часу дзейнічае норма пра прымусовае лячэнне і працоўнае перавыхаванне хранічных алкаголікаў, наркаманаў і... дармаедаў. Адзін з законаў патрабуе ад кожнага ўкраінца абавязковага вывучэння рускай мовы. Да экзатычных законаў савецкай мінуўшчыны адносіцца і пастанова, якая забараняе сеяць на тэрыторыі Украіны чуйскія і індыйскія каноплі.

Па-другое, аўтары законапраекту лічаць, што яго прыняцце дасць магчымасць «паставіць кропку ў каланіяльным мінулым прававой сістэмы Украіны, якая арыентавалася на працягу 25 гадоў незалежнасці яшчэ на імперскія акты, прынятыя савецкім рэжымам».

Прапанову Пятрэнкі ўспрынялі неадназначна нават у лагеры прыхільнікаў Майдана. Некаторыя непакояцца, што суседнія краіны, скарыстаўшыся «законам Пятрэнкі», атрымаюць дадатковы козыр для прад'яўлення тэрытарыяльных прэтэнзій Украіне або іскаў аб рэстытуцыі. Законы і ўказы аб уваходжанні ў склад Украіны Букавіны, Заходняй Украіны, Закарпацця прымаліся Вярхоўнымі Саветамі СССР і УССР.

У дадатак ініцыятары закону заклікаюць разглядаць Украіну як нашчадка Украінскай Народнай Рэспублікі (УНР), якая існавала ў кароткі час у гады Грамадзянскай вайны. Фішка ў тым, што нават на этапе кульмінацыі дзяржаўнага будаўніцтва УНР яе мяжы не ўключалі Крым. Іншымі словамі, дзякуючы «закону Пятрэнкі» Кіеў аднабакова адмаўляецца ад сваіх прэтэнзій на паўвостраў. Як адзначае папулярны палітолаг Руслан Бортнік, «адмена ўсіх савецкіх законаў будзе азначаць юрыдычны калапс нашай дзяржаўнасці». Каб супакоіць грамадскасць, ва ўрадзе Гройсмана загадзя адзначаюць, што рашэнне аб дэкамунізацыі права не азначае адмены ратыфікацыі міжнародных дамоў, якія падпісваліся да незалежнасці Украіны.

Іншыя крытыкі законапраекта звяртаюць увагу на тое, што яго прыняцце можа выклікаць татальны хаос у заканадаўстве. У сувязі з гэтым нават многія прыхільнікі дэкамунізацыі (напрыклад, палітолаг Уладзімір Фясенка) заклікаюць быць з ініцыятывай Пятрэнкі максімальна акуратнымі. Фясенка, напрыклад, не разумее, што рабіць у будучым з дыпломамі, якія выдаваліся ў савецкі перыяд.

З улікам таго, што закон прымаюць хутка, у сеціве паўстала канспіратыўная тэорыя пра тое, што «закон Пятрэнкі» лабіруе адзін з алігархічных кланаў. Украіна знаходзіцца на парозе прыняцця закона пра прыватызацыю зямлі. Сусветна вядомы ўкраінскі чарназём — велізарны куш, за які ўжо зараз разгортваюцца баталіі. Адмена законаў СССР і УССР, якія ў тым ліку рэгламентуюць межы раёнаў, дазволіць чыноўнікам, якія прымаюць кіраўнічыя рашэнні, адвольна тлумачыць нарматыўна-прававыя акты. Галоўны профіт пры такім сцэнары атрымае партыя ўлады — клан Пятра Парашэнкі, які кантралюе вертыкаль.

Яшчэ адна версія — нехта ў Мінюсце марыць распілаваць бюджэт. Працэс дэкамунізацыі Украіны абышоўся падаткаплацельшчыку ў 200 мільёнаў долараў, а на поўную перазагрузку прававой базы спатрэбіцца ніяк не менш.

З іншага боку, наяўнасць матэрыяльнага падтэксту ў законапраекце Пятрэнкі — гарантыя таго, што закон у парламенце, дзе хапае лабістаў іншых алігархаў, чакае няпросты лёс. Раней дэпутаты заблакавалі законапраект таго ж «Народнага фронту» пра «папярэднія канфіскацыі», які дазваляў канфіскоўваць без суда актывы ўсіх падазраваных у сувязях з Януковічам.

— Нягледзячы на вялікі рэзананс у прэсе, пакуль перспектыва з'яўлення такога закона здаецца сумнеўнай, — каментуе для НЧ кіеўскі журналіст **Юрый Палянін**. — Савецкая нарматыўна-прававая база — гэта яшчэ і розныя дробныя нарматывы: стандарты якасці, тэхнічныя рэгламенты аж да правілаў пажарнай бяспекі і правілаў карыстання ліфтам. Акрамя таго, ёсць негатыўны досвед. Адмена шэрагу савецкіх нарматываў пра лясную службу ўвесну 2014-га да восені прывяла да хвалі лясных пажараў.

Гэтая ініцыятыва ўпісваецца ў цяперашнюю падрыхтоўку ўсіх партый да пазачарговых парламенцкіх выбараў, калі ўрадавыя партыі спрабуюць спадабацца электарату, адцягнуць увагу грамадства ад неэфектыўнага кіравання і іншых правалаў, — лічыць Палянін. — Асаблівая праблема ў «Народнага фронту», рэйтынг якога вагаецца ў межах аднаго працэнту. А тут яшчэ патэнцыйныя канкурэнты з «Блока Пятра Парашэнкі» рыхтуюць на май супершоў — завочны суд над Януковічам, які закліканы вярнуць БПП імідж вядучай партыі Майдану. Хутчэй за ўсё, падчас дэбатаў у парламенце пераможа падыход: каб адмяніць старыя ўказы і законы, спачатку трэба, як мінімум, прыдумаць новыя.

# Апошні акт венесуэльскай драмы

Алег НОВІКАЎ

**Уга Чавес, напэўна, сёння круціцца ў труне. Яго заклятыя праціўнікі з лагеру дэмакратычнай апазіцыі зараз абараняюць прыдуманую Уга так званую «Баліварскую Канстытуцыю».**



Фота www.inosmi.ru

Нікалас Мадура падчас першамайскай маніфестацыі парадаваў суайчыннікаў навіной пра скліканне Канстытуцыйнай Асамблеі. Адпаведная працэдура прадугледжаная артыкулам 384 дзеючага Асноўнага закона, які надае ўдзельнікам сходу права прыняць папраўкі ў тэкст Carta Magna.

Папраўкі і працэдура іх прыняцця, якая, натуральна, немагчымая без шырокіх грамадскіх кансультацый, на думку Мадуры, дапамогуць венесуэльцам вырашыць цяперашні палітычны крызіс. Гэта, у сваю чаргу, — перадумова выхаду з глыбокага эканамічнага калапсу.

Драматызм эканамічнай сітуацыі ў Венесуэле лепш за ўсё ілюструюць лічбы. Інфляцыя за мінулы год склала 740 працэнтаў, падзенне ВУП дасягнула 18 працэнтаў, замежны доўг узняўся за год на 140 працэнтаў. Беспрацоўе прабіла планку ў 40 працэнтаў. У дзяржавы нават няма грошай, каб набыць паперу для друку балівараў — мясцовай валюты. Пакутуюць ад гэтага простыя людзі, якія сутыкнуліся з дэфіцытам самых элементарных прадуктаў. Вельмі часта праблема вырашаецца за кошт банальных гоп-стопаў і атак на крамы ў заможных кварталах.

У апошні час венесуэльскі крызіс перайшоў у новую фазу. Пасля таго, як месяц таму Мадура пастанавіў распусціць парламент, у якім большасць належала апазіцыі, у краіне пачаліся маршы чавістаў і іх апанентаў. Мабілізацыя актыву не абышлася без будаўніцтва барыкадаў і сутычак. У выніку, па розных дадзеных, толькі за красавік былі забітыя каля 25 чалавек. Крызіс унутры краіны стварыў Мадуру праблемы па знешняму контуру. Пасля таго, як Мексіка праз падзеі ў Венесуэле заклікала да пазатэрміновай сесіі Арганізацыі амерыканскіх дзяржаваў, Каракас заявіў пра выхад са згаданай міжнароднай структуры.

У такой напружанай атмасферы і была агучаная ідэя Усеагульнага народнага сходу. «Гэта шлях да міру. Ласкава запрашаем на дэбаты прыхільнікаў розных ідэяў», — паведаміў гаспадар палацу Miraflores, рэзідэнцыі венесуэльскага гаранта.

**Нават калі Мадура стабілізуе палітычную сітуацыю, у яго няма рэсурсаў, каб вырашыць праблемы эканомікі. Пустыя страўнікі прымусяць людзей выйсці на вуліцы і патрабаваць адстаўкі прэзідэнта**

Рэакцыя апазіцыі была адмоўнай. Энрыка Капрылес, лідар MUD — Кааліцыі дэмакратычных сілаў, заклікаў суайчыннікаў абараніць дзеючую Канстытуцыю. Па логіцы спікера апазіцыі, пад выглядам канстытуцыйнага сходу Мадура намагаецца пазбавіць легітымнасці парламент. Апазіцыя сумняваецца, што выбары ў Канстытуцыйную Асамблею абыдуцца без фальсіфікацый. У тым ліку таму, што палова сябраў гэтай асамблеі — прадстаўнікі сацыяльных і грамадзянскіх ініцыятыў, дзе дамінуюць чавісты. Такой жа думкі, што і Капрылес, прытрымліваецца і афіцыйны Вашынгтон. 2 мая Дзярждэп расцаніў ідэю з канстытуцыйным сходам як «парушэнне правоў грамадзян і разбурэнне асноў венесуэльскай дэмакратыі».

Цікава, што не падтрымала прапанову Мадуры і частка прыхільнікаў Чавеса. Гэтая фракцыя лічыць, што Мадура здрадзіў справе Уга Чавеса. «Ад прамой улады народ аддзяліў менавіта кіраўнікі праўладнай партыі сацыялістаў і тыя, хто з імі. Гэтая манструозная партыя, што пабудаваная па прынцыпе КПСС, падмяніла саму ідэю народнай улады на ўладу партыі», — піша ў інтэрнэце адзін з прыхільнікаў такой лініі.

З улікам негатыўнай рэакцыі грамадства на ініцыятыву Мадуры, ёсць падставы казаць пра тое, што яго план не ахаладзіць настроі, а наадварот, яшчэ больш абвострыць абстаноўку. Пра гэта сведчыць таксама і мінорны тон каментараў у сусветнай прэсе. Пры гэтым, напэўна, упершыню за ўвесь час венесуэльскага крызісу яны допускаюць сцэнар, калі ў хуткім часе Венесуэла як дзяржава можа спыніць існаванне. Прынамсі, такую выснову робіць нямецкая «Sueddeutsche Zeitung».

Па логіцы журналістаў, нават калі Мадура за кошт маніпуляцый з Канстытуцыйнай Асамблеяй стабілізуе палітычную сітуацыю, у яго няма рэцэптаў і рэсурсаў, каб вырашыць праблемы эканомікі. Пустыя страўнікі ўсё роўна з часам прымусяць людзей выйсці на вуліцы і патрабаваць адстаўкі прэзідэнта.

Адначасова незразумела, як зможа рэанімаваць венесуэльскую эканоміку ў выпадку перамогі і апазіцыя з MUD. Венесуэла, як буйны здабытчык нафты, увесь час выжывала за кошт нафтавай рэнты. Зараз цэны на нафту на сусветных біржах не вельмі высокія. Акрамя таго, традыцыйна асноўным экспарцёрам венесуэльскай нафты выступалі ЗША. Цяпер Дональд Трамп намагаецца развіваць айчынную нафтавую індустрыю. Днямі Белы дом нават «размарозіў» здабычу нафты на шэльфах.

Таму ў публікацыях, прысвечаных Венесуэле, шмат праекцый на цяперашнюю сітуацыю ў Бразіліі, дзе правая апазіцыя прыкладна год таму дамаглася адстаўкі левай адміністрацыі. Аднак ракіроўка на палітычным Алімпе не дапамагла вырашыць глабальныя праблемы, што адгукнулася новым бразільскім лідарам агульнанацыянальным страйкам, які выбухнуў на днях. Таму тыя, хто кажа пра хуткую развязку венесуэльскай драмы, хутчэй за ўсё, памыляюцца. Падобна на тое, што мы назіраем толькі фінал першага сезону доўгага серыялу.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Энда Кені



Прэм'ер-міністр Ірландыі вынес на саміт Еўрасаюза беспрэцэдэнтную прапанову: калі брытанскі рэгіён Паўночная Ірландыя аддзеліцца ад Злучанага Каралеўства і ўвойдзе ў склад Рэспублікі Ірландыя, ён аўтаматычна будзе ўключаны ў ЕС. Яшчэ больш сенсацыйна тое, што кіраўнікі краін ЕС падтрымалі ідэю ірландца.

Хоць у дакуменце адзначаецца, што еўрапейцы ніяк не спрабуюць паўплываць на выбар і меркаванне жыхароў Ольстэру, безумоўна, гэта рашэнне з'яўляецца формай ціску на Лондан. Ёсць думка, што праз падтрымку праірландскага сепаратызму Брусэль хоча даць урок брытанскай эліце, якая падтрымала Brexit. Сапраўды, рэзалюцыя ЕС надае новае дыханне канфлікту ў Паўночнай Ірландыі, дзе большасць насельніцтва (56 працэнтаў) выказалася на плебісцыце за захаванне сяброўства ў ЕС.

Праўда, не выключана, што лідары ЕС гуляюць з агнём. Яшчэ ўчора кіраўніцтва ЕС блакавала любыя спробы перагляду межаў паміж сябрамі ЕС, але цяпер гатовае парушыць свой святы прынцып дзеля пакарання брытанцаў. Падтрымка сепаратызму ўнутры Англіі відавочна будзе сігналам для каталонцаў і іншых еўрапейскіх народаў, якія патрабуюць незалежнасці.

Між тым, ЕС не спыняецца. 3 мая стала вядома, што ЕС хоча патрабаваць ад Лондану за выхад з аб'яднання фантастычную суму — 100 мільярдаў еўра.

### Алмазбек Атамбаеў



Кіраўнік Кыргызстану распачаў рэалізацыю свайго экстраардынарнага плану, паводле якога ў краіне з'явіцца новы заканадаўчы орган — Народны Курултай. У традыцыйным разуменні, Народны Курулай — гэта народны сход. Што тычыцца Атамбаева, то ў яго вачах гэта фактычна яшчэ адзін парламент, які будзе складацца з кіраўнікоў мясцовай улады і прадстаўнікоў розных раёнаў.

На сесіях Народнага Курултая, якія плануецца праводзіць некалькі разоў на год, будуць прымацца законапраекты, што пасля пойдуць на разгляд парламенту. Народны Курултай таксама атрымае паўнамоцтвы кантраляваць урад.

Рэформа павінна вырашыць праблему прадстаўніцтва правінцыі ў заканадаўчых органах. У парламент Кыргызстану, які абіраецца паводле партыйных спісаў, як правіла, трапляюць жыхары сталіцы, дзе сканцэнтраваны ўвесь капітал.

На мінулым тыдні ў Бішкеку прайшоў установчы сход арганізацыі — «Нацыянальна-патрыятычныя сілы». У мерапрыемстве ўзялі ўдзел прадстаўнікі каля 10 партый і 40 няўрадавых аб'яднанняў — палітыкі, грамадскія дзеячы, а таксама грамадзянскія актывісты, якія падпісалі мемарандум: дамагацца змяненняў у Асноўны закон краіны «ў мэтах адраджэння інстытута Народнага Курултая». Рэформу плануецца распачаць ужо ўвосень, пасля таго, як у краіне пройдуць выбары прэзідэнта.

### Міхаіл Хадаркоўскі



Лідар антыпуцінскага руху «Адкрытая Расія», апальны алігарх, які зараз жыве ў эміграцыі, прайграў у негалоснай барацьбе за статус лідара расійскай апазіцыі. Гэта стала відавочна пасля слабых вынікаў акцыі «Надоел», якую «Адкрытая Расія» намагалася правесці па ўсёй краіне 29 красавіка.

Мэтай мітынгаў пад брэндам «Надоел» стала патрабаванне захавання Пуціным закладзенага ў Канстытуцыі прынцыпу змяняльнасці ўлады. Падчас акцыі актывісты пісалі зварот да Пуціна з просьбай аб адстаўцы. Вынікі вылазкі «Адкрытай Расіі» аказаліся вельмі супярэчлівымі, паколькі людзей выйшла не так шмат. Найбольш масавыя пратэсты прайшлі ў Санкт-Пецярбургу, дзе ў паліцэйскія аўтазакі патрапілі некалькі дзясяткаў чалавек.

На думку большасці каментатараў, на сціплых памерах пратэстаў адбіваецца фактар асобы Хадаркоўскага, які ва ўспрыманні большасці насельніцтва — не палітык, а алігарх калібру 1990-х гадоў, што імкнецца вярнуць свае актывы.

Канфуз Хадаркоўскага зноў зрабіў фронтменам расійскай апазіцыі Аляксея Навальнага, акцыю якога ў сакавіку падтрымала значна большасць расіян. Цікава, што Навальнага разглядаюць у якасці будучага кандыдата ў прэзідэнты Расіі, нават нягледзячы на тое, што 3 мая суд паўторна прызнаў яго вінаватым у крадзяжы сродкаў кампаніі «Кировлес». Прысуд па гэтым артыкуле забараняе ўдзел у прэзідэнцкіх выбарах. Праўда, сам Навальны кажа, што будзе абскарджваць судовае рашэнне.

# Яшчэ раз пра вайну, альбо Фікусы ў кадушках

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

**Кожны год адбываюцца аднолькавыя, як пад капірку, святкаванні Дня Перамогі. Адны і тыя ж словы з трыбун, адны і тыя песні і фільмы на экранах. Гімнасцёркі, стрэлы, акопы... Мала засталося людзей, якія памятаюць пра фронт, партызанку і акупацыю.**



1939 год, Брэст. Сумесны парад войскаў нацысцкай Германіі і СССР



Яшчэ ў 1990-я гады ў незалежным друку загучалі галасы, што надышоў час пра падзеі і прычыны Другой сусветнай вайны сказаць «усю праўду». Абнародаваны факты, пра якія раней небяспечна было гаварыць, і смелыя трактоўкі гэтых фактаў. Аднак жа (і гэта таксама факт) «праўдаў» зaўсёды бывае некалькі. Якая каму выгадная, той і трымаюцца да апошняга ўздыху. Ніхто з савецкіх стратэгаў не ўзяў на сябе адказнасці за катастрофу першых месяцаў вайны. Хіба гэта не парадокс, што мілітарызаваная, «заточаная» на вайну савецкая імперыя аказалася не гатовай абараняцца?!

Першымі прынялі на сябе ўдар агрэсараў прыгранічныя дывізіі Брэста і Беласточчыны. У 8-й стралковай дывізіі 10-й арміі праходзіў службу малады настаўнік Пётр Архіпавіч Нікодаў. Ураджэнец Магілёўшчыны, ён доўгі час працаваў дырэктарам Плешчаніцкай СШ №1.

«Мы стаялі пад Ломжай, за Беластокам. Некалькі артылерыйскіх часцей размяшчалася ў летнім лагеры. Была субота, дзень памыўкі. Пасля лазні салдатаў паставілі дзяжурыць на «лёгкі пост» — ахоўваць калодзеж у недалёкай вёсцы. Адзін заступіў на пост, а двое падаліся на вечарынку.

У чатыры гадзіны раніцы пачаліся баявыя дзеянні: налёт на блізкі аэрадром. Абстрэл, бамбёжка, трасіруючыя кулі... Як у кіно. Пабудзіў сваіх: «Уставайце! Вайна!» Хлопцы не паверылі. Маўляў, планаваліся армейскія манёўры. «Дык жа крыжы на самалётах!» — «А ты бачыў у цемры тыя крыжы?» Гэтак падыскутавалі — і зноў паснулі. Ажно едзе конны раз'езд, пытаюцца, дзе граніца. Разведку паслалі... Устрывожыліся.

Бачу, бягуць камдыў Боўкун з палітруком. З вёскі, дзе яны стаялі на кватэры, іх выклікалі ў часць. Потым прыбег узмакрэлы разведзяшчы: так і так, аб'яўлена баявая трывога, рыхтуйся да адпраўкі. Мяне забралі, і наш «арудзійны разлік» у складзе 12 чалавек паехаў да граніцы. Толькі мы занялі адзін населены пункт на баку немцаў, па нас ударыла іхняя артылерыя. Праўда, неяк раптам усё сціхла. А ўначы мы атрымалі загад адступаць на ўсход. Пачаўся кашмар акружэння, так званы Беластоцкі кацёл. Адступалі тры арміі Заходняй акругі: 10-я, 4-я і 3-я».

У Мінску панаваў хаос, рабаваліся пакінутыя дамы і кватэры. Горад гарэў, бо не было каму арганізаваць тушэнне пажараў пасля бамбёжак. (Кіраўніцтва БССР спешна з'ехала на трэці дзень вайны.) Тым часам адбываўся вялікі зыход жыхароў з палаючага Мінска. Шматлікіх бежанцаў абганялі палутаркі начальнікаў з мэбляй і фікусамі ў кадушках. Пад такім самым фікусам, кажуць, выязджаў і першы сакратар ЦКПБ(б) Панцеляймон Панамарэнка.

Разам з іншым сыходзілі з горада супрацоўнікі газеты «Советская Белоруссия», у тым ліку цяжарная Марыя Міхайлаўна Ваганава: «Перш ішлі на Маскоўскую шашу. Потым нехта абвясціў, што ў Барысаве нямецкі дэсант, і ўсе павярнулі на Магілёў. Пераначавалі ў жыце, і далей маці ісці ўжо не магла. Па шашы імчалі машыны з цэкоўскімі і саўмінаўскімі работнікамі. Адну машыну спыніў міліцыянер, грозячы пісталетам. Маці з сястрой упіхнулі ў кузаў. Кіроўца давёз іх да Чэрвеня і аддаў свае рэчы: коўдру з абрэзкаў, цёплую мужчынскую бялізну, кашулі... Усё гэта потым спатрэбілася і пайшло на пялюшкі. (Паводле Сяргея Ваганава «Мосцік над вечнасцю».)

Начальнікі, адказныя за эвакуацыю, ратавалі найперш музейныя і матэрыяльныя каштоўнасці (банкаўскую наяўнасць, напрыклад). Стараліся вывезці партыйныя архівы і сакрэтныя справы НКУС — расстрэльныя спісы і таму падобнае. Між тым, не зрабілі неабходнага: не забяспечылі вывазу ў тыл дзіцячых устаноў на Міншчыне і ва ўсходніх абласцях. Застаўся і дзейнічаў пры акупацыі дзіцячы дом у Сёмкаве. Ваеннаслужачыя 100-й дывізіі, спешна адступаючы, мусілі пакінуць сваіх дзяцей у піянерскім лагеры. У Астрашыцкім Гарадку на базе гэтага лагера немцы адкрылі прытулак. Адзін з лагойскіх хлопцаў, пакідаючы сталіцу, на ўскраіне агледзеў групу ясельных, кінутых выхавацелямі дзяцей. Пад малечу клапатліва паслалі посцілку.

**Начальнікі, адказныя за эвакуацыю, ратавалі найперш музейныя і матэрыяльныя каштоўнасці, стараліся вывезці партыйныя архівы і сакрэтныя справы НКУС. І не забяспечылі вывазу ў тыл дзіцячых устаноў на Міншчыне і ва ўсходніх абласцях. Застаўся дзіцячы дом у Сёмкаве. Ваеннаслужачыя 100-й дывізіі мусілі пакінуць сваіх дзяцей у піянерскім лагеры...**

Кампазітар Алесь Рашчынскі (светлая яму памяць) даводзіў у адной газетнай публікацыі, чаму для яго вайна не «Айчынная», а Другая сусветная. «Мяне не цікавіць, была «Советская Армия» падрыхтавана да вайны ці не. Яна павінна была быць падрыхтавана! Але бяда ў тым, што ўсе імперскія арміі падрыхтаваны не для абароны сваёй краіны, а для нанясення ўдару першымі. Галоўнае для мяне — тое, што гэтая армія не абараніла маю Айчыну (і маю маці) ад фашыстаў, а здала яе на тры трагічныя гады».

Ёсць такая прымаўка: дагуляліся, як цяля на вяроўцы... Шашні з нацыстамі — гандаль, эканамічная дапамога Вермахту, падрыхтоўка лётчыкаў і іншых спецыялістаў — да дабра не давялі. Усё гэта было. Існавала. Мела, як кажуць, месца. Аднак сам факт перамогі над фашызмам дазваляе замоўчваць многае, што сучаснай моладзі варта было б ведаць. Скажам, пра сумесны вайсковы савецка-германскі парад у Брэсце, здымкі якога разышліся па ўсіх тэлеграфных агенцтвах свету. Альбо пра тое, што пасля заключэння дагавору аб ненападзе міністр замежных спраў Германіі Рыбентроп атрымаў галоўную савецкую ўзнагароду — ордэн Леніна.

Замоўчваецца і многае іншае.

Але асабліва ўразіў мяне лёс генерала Нічыпаровіча.

Военачальнік з беларускім прозвішчам, У.І.Нічыпаровіч нарадзіўся ў Маскоўскай вобласці (1900–1945), быў удзельнікам грамадзянскай вайны. З 1924-га знаходзіўся на камандных пасадах у Беларускай ваеннай акрузе. Калі пачалася вайна, узначальваў механізаваную дывізію ў Гайнаўцы (былая Беластоцкая вобласць). Адступаючы, пад налётамі германскай авіяцыі, прайшоў 600 кіламетраў да Мінска. Праз лінію фронту прабіцца не змог. У занятай ворагам сталіцы сабраў групу лейтэнантаў і ў зручны момант рушыў на Рудзенск, дзе на той час ужо дзейнічала некалькі атрадаў. З камандзірам Сяргеевым адбылася такая прыблізна гаворка: «Дзе твая дывізія, палкоўнік?» — з'едліва спытаў Сяргееў. — «Там, дзе і тваё НКВД», — «Маё НКВД пры мне», — запярэчыў камандзір атрада. (Атрад сапраўды складаўся з супрацоўнікаў органаў дзяржбяспекі.)

Агульнай мовы афіцэры не знайшлі, і Нічыпровіча ўзялі простым байцом у атрад Пакроўскага, былога старшыні Клічаўскага райкома партыі. Калі атрад трапіў у аблогу, палкоўнік прапанаваў план дзеянняў. Дзякуючы гэтаму плану, партызанам удалося адбіцца практычна без стратаў, затое немцы страцілі 70 забітымі. Пасля бою адбылося аб'яднанне двух атрадаў, і партызаны выбралі Уладзіміра Іванавіча сваім камандзірам. Узбуйнены атрад ён назваў у гонар сваёй дывізіі 208-м партызанскім палком.

Сяргееў з 80-ю байцамі сышоў, Пакроўскі зрабіўся камісарам атрада, аднак затаіў крыўду.

Камандзірскі талент Нічыпаровіча яскрава праявіўся падчас славутага Клінкоўскага бою ў сакавіку 1942-га (Чэрвеньскі раён). Падчас блакады на 500 партызан кінулі тры палкі — СС, казацкі і артылерыйскі, а таксама танкавую роту і пяць самалётаў. У выніку трохдзённага бою (па іншых звестках, бой ішоў да пяці дзён) эсэсаўцаў рассеялі, казацкі полк — пабілі, нямецкія гарматы — забралі, танкі папалілі і збілі адзін самалёт. Страты ў жывой сіле былі мінімальныя: 36 параненых і 6 забітых.

Палкоўнік аб'яднаў партызанскія сілы Клічаўскага раёна, узначаліў аператыўны цэнтр брыгады. Поспехі палкоўніка ацаніла вышэйшае камандаванне: яго ўзнагародзілі ордэнам Леніна. Між тым Панцеляймону Панамарэнку пайшлі даносы: маўляў, Нічыпаровіч ігнаруе ролю камуністычнай партыі: уласным загадам па 208-м палку абвясціў у раёне Савецкую ўладу... А роля партыі — дзе? Ён што, вышэй за партыю?

Партызанскага камандзіра адклікалі ў Маскву. Званне генерал-лейтэнанта і вучоба ў Акадэміі Генштаба не перашкодзілі арышту. Пачаліся допыты на Лубянцы, абвінавачванні ва ўсіх грахах, нават у правале мінскага падполля. Генерала не пазбавілі звання і ўзнагарод, але пакінулі ў турме да вызвалення тэрыторыі і «высвятлення акалічнасцей». Чырвоная Армія з баямі падступала да Берліна, а справай рэпрэсаванага ніхто не займаўся. Тады генерал абвясціў галадоўку. «Захочет есть — покушает», — па-філасофску адрэагаваў галоўнакамандуючы. Так страцілі перспектыўнага военачальніка, які мог сумесна з Жукавым штурмаваць клятыя Зеелаўскія вышыні. (Яны, дарэчы, лічыліся сябрамі.) Ці было б столькі ахвяр у гэтай вайне, каб не тысячы замардаваных і расстраляных у 30-я гады камандзіраў?

Былыя партызаны — хто з Нічыпаровічам ваяваў — плакалі, успамінаючы свайго камандзіра. Сярод іх — Барыс Хаймовіч, які першы вывеў у лес падпольную групу з мінскага гета. А пераказаў мне ўспаміны бацькі-камісара паэт Фелікс Баторын.

# Як разгаралася і патухала «Полымя»

Сяргей ЧЫГРЫН

**Гурток Таварыства беларускай школы ў Беластоку быў створаны ў 1927 годзе. Першы сход адбыўся ў прыватным памяшканні Язэпа Грагарчука, дзе дэкларацыю аб прыналежнасці да ТБШ падпісалі 23 чалавекі.**

Знайшлося і памяшканне для ТБШ, дзе хутка быў зроблены рамонт і паціху наладжвалася праца. Актыўна запрацавалі ў ТБШ драматычная, харавая, дэкламатарская і літаратурная секцыі. «Праз нейкі час пачалі ставіць беларускія п'есы — ва ўласным памяшканні па суботах, нядзелях і ў святы, а таксама ў Беластоку і ў цэлай акрузе. Беларускае насельніцтва выдатна падтрымала ініцыятыву Таварыства», — успамінаў Кастусь Сідаровіч.

Калі верыць Сідаровічу, за сем гадоў дзейнасці ТБШ было пастаўлена 167 спектакляў і беларускіх сцэнічных твораў, у якіх удзельнічаў і хор. Драматычная секцыя налічвала 13 пастаянных акцёраў-аматараў, харавы калектыў — 38 харыстаў.

## ТБШ і Язэп Драздовіч

Дзейнасць ТБШ у Беластоку ў 1927–1935 гадах была даволі актыўнай. І ў сакавіку 1933 года тэбэшоўцы запрасілі слыннага беларускага мастака Язэпа Драздовіча, абяцаючы яму заробак за афармленне стэндаў, плакатаў і тэатральных дэкарацый.

«Учора з вечара я атрымаў



Язэп Драздовіч

запрасіны паехаць у Беласток на працу. Сягодня большую палавіну дня патраціў на хаднio — на агледзіны Лукішскага кірмашу — «Казюка» (кірмаш у Вільні, прымеркаваны да дня святога Казіміра. — С.Ч.), — піша ў сваіх «Дзённіках» Язэп Драздовіч.

Драздовіч прыехаў у Беласток 6 сакавіка 1933 года. «Уражанне ад горада такое: вялікае старадаўняе сяло, не надта даўно перашоўшае ў стан багацеючага горада, у якім адразу кідаецца ў вочы розніца між старымі і новымі будынкамі. Старыя аднастольныя хаты ў перамежку з новымі мнагастольнымі камяніцамі. Па свайму месцу распалажэння Беласток нічым не розніцца ад новаўзбудаваных Баранавіч — ні ракі, ні возера, ні прыгожых узгор'яў ці даліны. Найпрыгажэйшая часць Беластоку — гэта каля гатыцкага касцёлу. Ад т. зв. ратушы да брамы палацу Браніцкіх...» — напіша Язэп Драздовіч у «Дзённіках».

А 8 сакавіка Драздовіч ужо намаляваў шыльду на памяшканне акружной управы ТБШ. «Усё добра, ды холад, работа з рук валіцца», — адзін з першых запісаў мастака на новым месцы. Праз пару дзён ён закончыў вітражныя шыльды для кааператыўна-выдавецкага таварыства «Сяўба». Затым, па замове Беластоцкай акружной управы ТБШ, пачаў маляваць дэкарацыі для спектакляў, якія рыхтавала драматычная секцыя Таварыства. «Вясковую вуліцу» — для прадстаўлення паводле камедыі Уладзіслава Галубка «Суд», дэкарацыю «Пушча» і яшчэ краявід «марэнна-лясістага характару: наводдалі лес, узгор'е, рэчка, а па іх бярозавыя гаі. На ўзбліжку — узмёт з альшынкамі і дубамі».

Непадалёк у Супраслі ўжо ставіўся спектакль паводле п'есы Марка Крапіўніцкага «Пашыліся ў дурні» пры дэкарацыях, выкананых Язэпам Драздовічам. Гледачоў на спектаклі было шмат. Дарэчы, як пісаў мастак, «супрасляне аказаліся нашмат тэатральнейшымі за беластаччан, якія ідуць на спектаклі толькі дзеля танцаў».

Мастак з радасцю дапамагаў усталёўваць дэкарацыі ў арэндаваным на спектакль памяшканні на вуліцы Ружанскай у Беластоку. «Ставілася п'еса Крапіўніцкага «Пашыліся ў дурні». Сыгралі як найлепей. Сама сцэна з маімі дэкарацыямі, — цешыўся мастак, — мела выгляд надта прыстойны. Ды на вялікі жаль, цаніцеляў на ўсё гэта не хапала. Публікі было шмат. Моладзь уборная, франтаватая, ды эстэтычна слаба развітая».

Але ў 1933–1935 гадах Беластоцкая акружная ўправа ТБШ пачала адчуваць фінансавыя праблемы. Адзінай крыніцай папаўнення бюджэту была выручка ад спектакляў. Аматарскія спектаклі рэдка давалі добрыя касавыя зборы. Неўзабаве Драздовіч зразумеў, што ў Таварыстве не толькі на ганарар, але нават на фарбы няма грошай: «Прыйшоў на Купецкую, 44 у ТБШ, каб закончыць абраз-дэкарацыю «Пушча», ды, на вялікі жаль, прыходзіцца сядзець і нічога не рабіць — пакосту, клею і некаторых фарбаў не хапіла, а ў Таварыстве, аказалася, няма грошай на дакупку».

Праз пэўны час ТБШ у Беластоку знайшло дваццаць пяць златувак для Язэпа Драздовіча, за якія радасны мастак паехаў у Вільню. З таго часу сама дзейнасць ТБШ у Беластоку пачала паціху патухаць. У 1935 годзе пастановай гарадскога старосты Таварыства беларускай школы было забаронена, а ўсе яго дакументы канфіскавалі.

## Кааператыў «Полымя»

Пасля ліквідацыі ТБШ у Беластоку мясцовая моладзь у 1937 годзе паспрабавала заснаваць беларускі тэатральны кааператыў «Полымя». Як успамінаў Кастусь Сідаровіч, за арганізацыю кааператыва ўзяліся 12 чалавек — Ігнат Бакуновіч, Аляксандр Андрайчук, Лявон Богуш, Сяргей Крывец, Антон Кавальчук, Кастусь Сідаровіч, Базыль Лукашык, Пятро Дзямідовіч, Ганна Абуховіч, Уладзімір Маеўскі, Іван Гургэнбэнаў. Хлопцы і дзяўчаты сабраліся на маёўцы ў Юраўцах. Там яны разам падрыхтавалі статут кааператыва, абгаварылі пытанні наконт стварэння хору, драмгуртка і аркестра народных інструментаў. Сядзіба кааператыва павінна была месціцца ў Беластоку на вуліцы Надрэчнай, 9.

Але перш чым тэатральны кааператыў «Полымя» пачаў сваю дзейнасць, яго неабходна было зарэгістраваць. Дакументы на рэгістрацыю хутка былі падрыхтаваныя. Як паведамляе часопіс «Беларускі летапіс» №5 за 1937 год, «акружны суд у Беластоку падаў да публічнага ведама ў органы польскай кооперацыі «Spolnota pracy» № 7 з дня 1.IV.1937 году аб зарэгістраваньні 5 лютага г.г. беларускага коопэратыву пад назовам «Аб'еднаньне Працаўнікоў Беларускага Тэатру «Полымя», Коопэратыў Працы з адказнасьцю паямі».

У Статуце кааператыва казалася, што сябры ў кааператыўным аб'яднанні тэатральных працаўнікоў будуць мець заробак, пашыраць тэатральную культуру сярод беларускага насельніцтва, наладжваць тэатральныя мерапрыемствы, плаціць за арэнду памяшкання, прапагандаваць тэатральнае мастацтва і г.д. Старшынёй Управы тэатральнага кааператыву была абрана Ганна Абуховіч.

## Пад ціскам уладаў

Але не так усё проста складвалася ў тэатра «Полымя». Адной рэгістрацыі для дзейнасці творчага калектыву было мала. Як паведамляла беластоцкая прэса ў маі 1937 года, у прыватнасці, «Dziennik Białostocki», старшыня Управы таварыства «Полымя» Ганна Абуховіч была пакарана штрафам 200 злотых за арганізаванае таварыства працаўнікоў беларускага тэатру «Полымя» без адпаведнага паведамлення адміністрацыйным уладам. З гэтай прычыны беластоцкі гарадскі староста не даў дазволу на канцэрт, які таварыства мелася наладзіць у Беластоку ў залі тэатра «Palace» 4 мая 1937 года.

Сябры «Полымя» палічылі несправядлівым тое, што Ганну Абуховіч аштрафавалі. Яны пачалі пратэставаць супраць гэтага і даказалі ў судзе, што «Полымя» мае права на сваю дзейнасць, бо яно зарэгістраванае. І сваіго дамагліся. Часопіс «Беларускі летапіс» за 1937 год (№ 6–7) надрукаваў такую зацемку: «Беластоцкі суд звольніў ад штрафу,



Towarzystwo Szkoły Białoruskiej

Dnia 5 lutego 1928 r.
w lokalu Klubu „Hellas" Lipowa 6
odbędzie się
PRZEDSTAWIENIE-WIECZOREK
urządzany przez Białostocki Okręgowy Zarząd Towarzystwa Szkoły Białoruskiej.
Dochód przeznacza się na cele kulturalno-oświatowe.
Odegrano będzie:
1. BUTY
żart w 1 akcie Kudzielki w języku białoruskim.
Łapeć Mikity
Komedja 2 aktach Kudzielki
na zakończenie
TAŃCE
do godz. 4 rano
przy dźwiękach własnej orkiestry.
Bilety od 75 gr. do 2 zł. nabywać można w kasie klubu.
Początek o godz. 8 wiecz.
Zarządzający K. Sidorowicz
Пад кіраўніцтвам мастака
19. Druk. „Polonia" Białystok, Kilińskiego 9, tel. 1...
Андрэйчык

Тэатральная афіша на польскай мове ТБШ з Беластока, 1928 год

якім пакарана была гарадскім судом у Беластоку старшыня Беларускага тэатральнага кааператыву гр. Абуховіч».

І хоць «Полымю» было нялёгка, усё ж яго дзейнасць разгаралася на ўсю Беласточчыну. Сябры тэатра ставілі п'есы, выступалі з канцэртамі, а таксама самі наладжвалі розныя вечары, сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі, артыстамі, спевакамі. Пра ўсе добрыя справы і праблемы «Полымя» паведамляў у заходнебеларускім друку сябра тэатральнага кааператыва паэт Сяргей Крывец.

Сам Крывец (1909–1945) у Беласток прыехаў у 1933 годзе з Мастоўшчыны. Ён адразу далучыўся да сяброў ТБШ, а потым быў адным з арганізатараў «Полымя». І хоць ён не меў адукацыі (паступіў на першы курс Беластоцкага педінстытута толькі летам 1940 года), мог гадзінамі распавядаць усім пра рускую, польскую, беларускую літаратуру. Як згадваў Рыгор Шырма, Крывец ведаў літаратуру і любіў яе. Прыемна было весці з ім гутаркі на літаратурныя тэмы, чытаць жывыя, вострасатырычныя яго апавяданні. Бывала, цэлымі начамі хлопцы хадзілі па ўскраінах Беластока і ў гутарках пра Горкага і Чэхава, пра Пушкіна і Міцкевіча, пра Купалу і Коласа, пра савецкую і заходнееўрапейскую літаратуры не заўважалі, калі «ўсход разгараўся пурпурнай палоскай». Просты вясковы хлопец з адукацыяй два класы пачатковай школы меў багатую літаратурную эрудыцыю.

У тэатральным кааператыве «Полымя» Крывец быў, мяркуючы з сённяшняга пункту гледжання, загадчыкам літаратурнай часткі тэатра. Ён рэдагаваў сцэнарыі, пісаў сам шмат вершаў для тэатра, прадмоў, выступленняў, тэксты афіш, прапагандаваў тэатр у беларускай прэсе, распавядаў пра ўсе поспехі і праблемы «Полымя».

## І Забэйда-Суміцкі

Дзякуючы тэатру «Полымя» 6 чэрвеня 1937 года ў Беластоку быў наладжаны канцэрт Міхася Забэйды-Суміцкага. Вось як успрымалі беларусы Беластока канцэрт знакамітага спевака: «Трэба было бачыць на канцэрце, як публіка рэагуе на кожны паварот, на кожны пераход чароўнага голасу нашага мастака, які з першых тонаў апаноўвае душою публікі і з асаблівай лёгкасцю вядзе яе праз лабірынты далікатных перажыванняў. Іменна, трэба бачыць і адчуць, як саля замірае з журбой «Маладога дубочка», як дрыжыць, згарае агнём юнацтва з песняй «Ці грэх цябе любіць?» У людзей старых, адарваных ад народнага грунту, у каторых усякая сувязь з нашым жыццём здаецца занікла, мы бачылі слёзы. Гэта былі слёзы шчасця і радасці. Так было на канцэрце ў Беластоку 6 чэрвеня...». Акампаніраваў спеваку прафесар Урштэйн з Варшавы.

Так апісаў канцэрт Міхася Забэйды-Суміцкага Сяргей Крывец. Гэты допіс быў змешчаны ў часопісе «Беларускі летапіс», № 6–7 за 1937 год.

Беларускі тэатральны кааператыў «Полымя» ў канцы 1930-х гадоў быў на Беласточчыне даволі вядомым сваёй беларускай нацыянальнай дзейнасцю і актыўнасцю калектывам. Іншая справа, што мясцовыя ўлады пастаянна перашкаджалі яму. Напрыклад, 16 і 17 кастрычніка 1937 года ў Гарадку «палымянцы» хацелі паказаць дзве пастаноўкі — «Пакой у наймы» і «На вёсцы», а таксама канцэрты струннага аркестра і хору. Падалі просьбу пра дазвол на выступленне, але беластоцкі павятовы староста прыслаў адмову, матывуючы тым, што ў гэты час і ў тым жа месцы «прамышляюць» ужо іншыя арганізацыі.

Каля двух гадоў працаваў у Беластоку гэты творчы калектыў. А ў лютым 1938 года прадстаўнікі мясцовых уладаў уварваліся ў памяшканне «Полымя» і забралі ўсю яго дакументацыю — акты, архівы, фотаздымкі, творы. Далейшая праца была часова спынена.

Потым была вайна, а канчаткова забаранілі дзейнасць «Полымя» беластоцкія ўлады толькі ў 1945 годзе.

# «Плошча Калумба», альбо Ці камфортна дзівакам?

Яўгенія ЧАРАПАВІЦКАЯ

**Шчыры, цёплы, свой, неабыякавы. Такія ўражанні пакінуў зборнік аповесцяў і апавяданняў «Плошча Калумба» Сяргея Лапцэвіча.**



Сяргей Лапцэвіч



Плошча Калумба, Нью-Ёрк

Ужо ў самым пачатку, калі толькі прачытала пару старонак, — адразу адчула ў кнізе Сяргея Лапцэвіча шчырасць, яго героі сапраўдныя, свойскія і ў той жа час незразумелыя для большасці дзівакі. І такія дзівакі прываблівають нават тых, хто звычайна негатыўна да іх ставіцца. Бо трошачкі зайздросціш таму, як яны ўспрымаюць жыццё. Іх светапогляд — нестандартны, адкрывае новыя накірункі ўспрымання жыцця. І такі светапогляд — ноша не для кожнага.

«Плошча Калумба» пісалася на працягу 5 гадоў, але, са слоў аўтара, не ўсе расказы трапілі ў зборнік. «Мне здаецца, сёння ўсе мы знаходзімся ў нейкім пераходным стане, таму агульначалавечыя праблемы ўсюды падобныя, перагукаюцца. З іншага боку, мы не паспяваем сачыць за тым, як мяняюцца свет, культурная сітуацыя, не разумеем, як выжыць у суровым канкурэнтным асяроддзі», — казаў Сяргей Лапцэвіч на прэзентацыі зборніка.

Гэта гісторыі простых людзей, якія жылі ў розныя часы: у часы СССР (часы вайны і «перабудовы»), у «ліхія» 90-я, у нашай сучаснасці, у эміграцыі ў ЗША. Усіх іх аб'ядноўвае толькі адно: кожны павінен быў прыстасоўвацца да новых умоваў. У кагосьці гэта атрымлівалася, у кагосьці — не. Кніга прываблівае тым, што адлюстроўвае перш за ўсё псіхалагічныя хваляванні герояў, якія сутыкнуліся з новай рэальнасцю.

Сяргей Лапцэвіч дэманструе ўменне назіраць і рабіць свае высновы, успрымаць «іншага», шукаць прычынна-выніковыя сувязі і матывы паводзінаў. Імпануе, што ў зборніку кожнае апавяданне не толькі раскрывае новы сюжэт, але і можа звяртацца да персанажа з папярэдніх аповедаў, што надае цэласнасць кнізе.

Што падкупляе і выклікае сімпатыі ў героях "Плошчы Калумба"? Па-першае, амаль усе персанажы — тонкія натуры. Прычым шмат з іх трапіла на скрыжаванне эпох і на змену ўяўленняў ды светапоглядаў.

Па-другое, героі «Плошчы Калумба» змагаюцца з канфліктам паміж унутраным і вонкавым. Гэты канфлікт так і не атрымалася вырашыць, даводзілася адаптоўвацца, дзесьці ламаючы сябе, прыстасоўвацца ці заставацца толькі ў сваім «ўнутраным», што вядзе да канфлікту з «вонкавым».



Трагічнасць і самотнасць герояў у тым, што яны не ўпісаліся ў сістэму (вонкавае), хоць і былі ўключаны ў яе, але ж сваім жыццём і адчуваннем усё ж выходзілі па-за яе межы. Яны схільныя да бунтарства супраць сістэмы, але да дзеяння ў справа рэдка калі даходзіць. Героі «Плошча Калумба» могуць увасабляць спробы ўцёкаў ад прысутнай ім сацыяльнасці, будучы ў яе уключанымі, імкнучыся адгарадзіцца ад вонкавага свету і жыць толькі ў сваім.

Кожны персанаж — сусвет, і толькі ён вырашае, што і хто будзе ў гэтым сусвеце. На працягу жыцця ідзе барацьба паміж выбарам — застацца адданым самому сабе або абраць пратаптаную ў сацыяльнасці сцежку, пайсці па ўжо зробленаму шляху, бо свой пракладаць значна цяжэй. Цяжэй не толькі таму, што сіл на гэта патрэбна болей, больш смеласці, але і складана ўступаць у барацьбу з адкатанай за многія гады сацыяльнасцю. Больш таго, героі апавяданняў могуць у розныя перыяды жыцця быць у сістэме, потым выйсці з яе, а пазней зноў увайсці.

Гэта героі з цяжкімі і няпростымі лёсам, якія і ў сталым узросце не могуць адкінуць хваляванні і траўмы свайго дзяцінства, яны заўсёды трошкі жывуць у сваім мінулым. Сумуюць па сябрах, па ранейшым жыцці, па былой лёгкасці, не здольныя адпусціць старыя боль. У кожны час, у кожным пакаленні ёсць такія асобы, якія ці ідуць уперад, ці рэфлексуюць над сваім мінулым, ці засталіся на мяжы. Мяне прываблівае меланхалічнасць герояў «Плошчы Калумба», дзе кожны нясе на сабе адбітак глыбокай, невыяўнай пакуты і болю.

Па-трэцяе, мне падабаецца, што персанажы кнігі зведваюць экзістэнцыйныя пражыванні кожнага моманту свайго жыцця. Яны імкнуцца жыць праз адчуванні гэтага свету, каб не проста існаваць у пустэчы, а на самай справе жыць напоўніцу: каб глыбока адчуваць, што жывеш, бо інакш цесна, бо па-іншаму немагчыма, бо тое — здрада самому сабе.

Падкупляе дыскурс эміграцыі. Эмігранты з былых краін Саюзу — вельмі розныя людзі, якія надзвычай па-рознаму былі настроеныя да ад'езду і пасля. Адны так і не здолелі цалкам адаптавацца і памятаюць пра радзіму толькі лепшае, і гэтыя невялічкія ўспаміны з'яўляюцца перашкодай, і ўнутры сядзіць пытанне без адказу: «А можа вярнуцца?» Яны сумуюць па страчанай радзіме, але сіл вярнуцца не маюць. На радзіме ў іх было пачуццё нейкай годнасці, значнасці, а ў эміграцыі гэта адчуванне было страчана.

Аднак ёсць і тыя, хто дастаткова добра ўладкаваліся, і ў іх няма ніякіх праблем з самаадняснением, яны ўжо лічаць сябе «карэннымі амерыканцамі», і любы ўспамін пра былую радзіму выклікае нервовы цік.

На мой погляд, Сяргей Лапцэвіч ставіць у сваім зборніку адно пытанне: ці можа ў нашым свеце псіхалагічна камфортна існаваць чалавек з адметнай індывідуальнасцю, з адметным светапоглядам, з іншым адчуваннем жыцця, з іншым разуменнем падзей, уяўленнем пра чалавечыя адносіны? А можа, гэта заўсёды траўмаваныя людзі, якія вымушаны жыць у самоце, усё жыццё весці барацьбу з самімі сабой і з сусветам?

Калі падагульняць, то «Плошча Калумба» — гэта чытанне, якое дазваляе зірнуць на сябе збоку. Чытачу даецца свабода разумення і выбару глыбіні. І ўжо справа кожнага — успрыняць кнігу як нешта экзістэнцыйна значнае ці як просты твор з выбітнымі героямі.



Новы час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №424

Падпісана да друку 05.05.2017. 8.00. Наклад 3000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.